Сымон Блатун

# ЧЫСЦІНЯ

лірыка
гумар
пераклады

# Сымон Блатун

# ЧЫСЦІНЯ

лірыка
гумар
пераклады

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1979

# НА ЛЮДСКОЕ ВЕЧА

Ён для мяне жывы — Сямён, Сымон, Аксенцій Паўлавіч, як мы з паважлівым жартам называлі яго студэнтамі.

У ім спалучыліся чыста і ўзнёсла прыгажосць унутраная з прыгажосцю юнака, маладога мужчыны.

Ён ніколі не быў апрануты што завецца з іголачкі, але заўсёды акуратна, з густам. Не мог першакурснік Сымон Блатун прайсці спакойна каля люстэрка, каля шкляных дзвярэй нават, каб крадком не зірнуцца, каб лёгкім рухам, нібы пасуючы мяч, не ўскінуць чарнявы мысік сваёй лагодна-даверлівай, як і характар Сымонаў, рассыпістай шавялюры.

А калі смяяўся Сымон, то неяк светла рабілася. Смяяўся ён шчыра, непасрэдна, не вымучана. Бо смех — адна з праяў натуры чалавечай, смех выдае чалавека, ягоную непасрэднасць, унутраны стан, унутранае святло.

Да яго хінуліся, да яго гарнуліся сябры, аднакурснікі і, вядома ж, не абы-як пазіралі дзяўчаты.

Ужо ў сваіх першых вершах хацеў ён вясёлку «выкаціць цалюткім абручом», хацеў так пісаць, так ісці па жыццёвых сцежках — каб аж гай шумеў!

Жыццё, як і вясёлка, складаецца з тых жа фарбаў, з тых жа адценняў. Цалюткі абруч вясёлкі жыцця не доўга каціў Сымон Блатун. І колеры былі розныя.

Малавата было вясёлых, святочных. Пераважалі сумнавата-цьмяныя, будзённыя. Але жыццё-

вая проза не азмрочыла позірк жыццялюба, не прыземліла юначыя парыванні, не ачэрсцвіла сэрца паэта рамантычнага складу, не зняверыла шчырага даверу да людзей чалавека, які вышэй ад усяго цаніў таварыскасць, сяброўскасць, чалавека, які ніколі не насіў камень за пазухай, які ні на кога не таіў злосці, паэта, у слоўніку якога не было слова «зайздрасць».

Я нясу за пазухай голуба,
Камень там я насіць не магу.

Як прадстаўнік пасляваеннага пакалення нашых літаратараў Сымон добра ведаў цану жыцця. І з першага курса самому даводзілася яму зарабляць на хлеб надзённы. Бо смак скарынкі з мякінай, праснака з лебяды быў не паэтычнай фігурай, не той дэталлю, якую іншыя бяруць, каб чытача расчуліць.

Калі і прыходзіла пасылка восенню з духмянымі правобразамі зямнога шара, а зімой з трывалым касцоўскім папасам у інтэрнат на Свярдлова, а пасля на Бабруйскую, гэтая жаданая вестка з палескай вёскі Кавака ў дружнай і галоднай не толькі на рыфмаванае слова кампаніі хутка знікала. Пасля такіх сябрын і пісаліся радкі:

Гады прамільгнуць... І мо ў новай кватэры,
Як нейкае дзіўнае цуда,
З нас кожны прыпомніць вось гэту вячэру...
«А хто ж будзе мыць нам пасуду?»

На аддзяленні журналістыкі Сымон Блатун з першых дзён звярнуў на сябе ўвагу як самы здольны, баявіты, апантаны саўдзельнік падзей сучаснасці. Рана пачаліся дарогі ў самыя далёкія куткі Беларусі, нялёгкая газетная праца, што карацей называецца заданнем рэдакцыі, камандзіроўкай.

Я з першых вёрстаў палюбіў дарогі,
Глухія зненавідзеў тупікі.
У мітусні перонаў і вакзалаў
Я адчуваў імклівы пульс жыцця...

Гэта не дэкларатыўныя радкі. Гэта хутчэй думкі ўслых. Гэта рэальнасць, якая рабіла са студэнта-першакурсніка, юнака, што з залатым медалём закончыў школу на Брагіншчыне, актыўнага летапісца часу, рашучага і прынцыповага паэта.

А Сымон Блатун як чалавек, як паэт быў асобай, цікавай з'явай. Здзіўлялі і выклікалі добрую зайздрасць шырокае і разнастайнае поле ягонай цікаўнасці, цяга да ведаў, упартае жаданне ў любой рэчы дапасці да сутнасці, да глыбіні, да вытока. Займаўся спортам, вывучаў гісторыю мастацтва, а разам з тым не грэбаваў самай што ні ёсць чарнавой працай журналіста: апрацоўваў пісьмы, пісаў рэпартажы, нататкі, замалёўкі, рэцэнзіі, узнімаў нялёгкія скібы на здзірванелым палетку праблемнага нарыса.

І калі казаць пра стыль Сымона Блатуна, пра манеру пісьма, то ў першую чаргу трэба падкрэсліць натуральнасць, непасрэднасць, адсутнасць літаратурных хадуль, лёгкасць майстра і вясёлага субяседніка.

Шчырасць і нявымучанасць радка праявіліся і ў лірыцы, і ў гумары Сымона Блатуна, гумары дасціпным і інтэлектуальна-віртуозным.

На памяць часта прыходзіць цяпер далёкі ўжо эпізод.

Пасля заканчэння універсітэта мы яшчэ доўга хадзілі ў інтэрнат да сваіх на курс маладзейшых аднакурснікаў: да Янкі Сіпакова, Барыса Сачанкі, Івана Пехцерава. Сымон працаваў у «Звяздзе», я — ў «Бярозцы», кожны здымаў прыватны куток, але болей мы начавалі ў інтэрнаце,

бо і камендапту, і вахцёрам так прымільгаліся, што за студэнтаў нас усё яшчэ лічылі. Па заданню «Маладосці» пісаў я рэпартаж вершам з Бярозаўскай ДРЭС. Як заўсёды зацягнуў, здаваў у апошні дзень. І ніяк не мог паставіць ударную, ці што, кропку. Пісаў усю апошнюю ноч у рэдакцыі «Бярозкі», а раніцай мыцца пабег у інтэрнат. Тут ва ўмывальніку Сымон з ходу і параіў мне:

Запырскан вапнаю прараб,
Шпакамі ён расчулен:
— Вам рэпартаж канчаць пара б,
Таварыш Барадулін!

Наогул, распасоўка экспромтамі, эпіграмамі была ў нас у тыя часы своеасаблівай гімнастыкай. Жартавалі з сябе, з сяброў. Нават са смерцю вясёла жартавалі, бо яна тады для нас хадзіла дужа далёка.

Як звычайны верш успрымаліся тужліва прачулыя, абвострана выразныя радкі Сымона Блатуна:

І скажуць: «Быў яшчэ ж ён малады...»
Паўстану я ў кагосьці прад вачыма.
Зязюлямі падлічаць мне гады
Суцішана трывожныя жанчыны.

І скажуць так: «Ляжаў ён, як жывы...» —
Упершыню спагадліва і шчыра.
Цішэй вады, ніжэй травы...
Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы,—
Я адлятаю ў свой далёкі вырай.

Чалавек, а мастак асабліва, адчувае загадзя свой скон. Гэта зразумеў я пасля. Трэба прызнацца, што «ўпершыню спагадліва і шчыра» пачалі мы казаць пра сябра свайго тады, калі адчулі, як не стае ягонага глухавата-радаснага голасу, яго-

нага добрага пагляду, ягонай постаці ў нашым жыцці, у нашай паэзіі.

Не думалі мы тады, маладыя і шчодрыя на час, што два апошнія радкі будзе адліваць у метале Ігар Краўчанка надпісам над бронзавым барэльефам на Чыжоўскіх могілках.

«Гоні, рэчкі, паплавы» — гэта дакладна выпісаныя родныя мясціны. Калі быў я пасля на Брагіншчыне, пераканаўся ў гэтым. У галасах брагінцоў (яны самі націск робяць у слове гэтым на апошнім складзе) чуўся мне голас Сымона, сына Ціхана.

Патомны ратай, ён надзвычай балюча адчуваў зямлю з малой і з вялікай літары як карміцельку і як прадстаўніцу сусвету. Пра космас, пра касманаўтаў пісалася і пішацца шмат, не заўсёды на касмічнай вышыні. А Сымон Блатун на пачатку касмічнай эпапеі сказаў «Першым касманаўтам»:

Як рыцары, у панцырах, шаломах
На Марс ці Месяц сойдзеце па трапу.
І з радасці па звычаю зямному
Абдымецеся моцна і нязграбна.

І, вочы ўзняўшы у нябесны морак,
Заўважыць з вас, адчуе кожны,
Што больш за ўсё
Сярод шматлікіх зорак
За вас Зямля дрыжыць трывожна.

Не адрываючыся ад зямлі, паэт у той жа час не любіў прыземленасць думкі, бяскрыласць слова.

Як забытай цытатай з карана,
Гавару я на вечы людзей:
Зажываюць балючыя раны
І вяртаецца шчасце надзей.

Голас Сымона Блатуна «на вечы людзей» гучаў праўдзіва, без фальшы, без лірычнага сюсю-

кання. На людское веча ідзе паэт, які быў багаты і дужы «шчасцем надзей».

Сурова патрабавальны да слова свайго, сам зняў з выдавецкага плану свой першы зборнік, хаця ў рукапісу былі вершы друкаваныя, станоўча ацэненыя і чытачом, і крытыкай. Няшчадны да сябе, Сымон Блатун быў вельмі чулы і шчодры на падтрымку маладзейшых калег па пяру, калі кансультаваў у «Чырвонай змене», рыхтаваў літаратурныя старонкі маладой беларускай паэзіі.

У шэрай папцы на «маланцы», у якой звычайна Сымон насіў дадому па вуліцы Друкарскай рэдакцыйныя матэрыялы, зараз захоўваецца своеасаблівы архіў паэта: рукапісы, выразкі, адказы пачаткоўцам, бланкі газеты «Звязда».

Трэба бачыць, колькі варыянтаў, колькі рэдакцый мае амаль кожны верш, кожны радок. Пераклады белых вершаў Яна Судрабкална толькі ад рукі перапісаны тры разы — і кожны раз па-новаму.

Паэзія Сымона Блатуна яшчэ чакае свайго даследчыка, свайго крытыка, свайго зорнага часу. І яны будуць! Толькі сапраўдная сціпласць майстра магла сказаць пра сябе:

Жывой паэзіі вада ёсць —
Бывае мелкай і глыбокай.
Сябры ўжо ў рэчышча ўпадаюць,
А я застаўся ля вытока...

Выток узнёслага слова Сымона Блатуна раншне чысты і крынічна-жывучы. Без яго не зразумець усёй шырокай плыні сённяшняй нашай паэзіі.

Вяртаючыся да радасных дзён нашых сустрэч, нашай дружбы і да сумных часін заўчаснай смерці майго незабыўна дарагога сябра, зноў не веру, што яго няма:

А можа, нешта перablытана,
А можа, проста
Трызніцца ў самоце?

Сымоне...

Рыфмую
          ісціна і чысціня.
А восень колерамі
Размаісціна,
З рабіны лісце
Позірк чыйсьці зняў.

А жураўлі
Курлыкалі даверліва
У прысмерку вачэй.
Вядро
Крыло асверу перасвервала.
Мячэўнік стыў.
Звон вечара вячэў.

Другія межы сціпласці лямешылі,
У арыфметыцы прыбыткаў
Петрылі:
Ты ў палітончыку,
Падбітым вершамі,
Па раўнавазе
Сумаваў з усмешкаю.

Было,
Не меў кашулі запасной,—
Не знаўся
З арыфметыкай прынаднай.
Меў нумар тэлефона
Ў кніжцы запісной,
Самой
          вясёлаю Вясной

Запісаны памадай...
Не дбалі
Аб надзёным хлебе
Тваe радкі:
*...Журайля я не спаймаў у небе,*
*А сініцу выпусціў з рукі...*
Рыдлёўка далакопава ўпівалася
У змоўкласць дзірвана.
Не з плугам баразна
Спазналася.
Спазнялася
Вясна.

Гром — на траву.
Ды гром маўчаць стараўся:
Маланак сківіцы
У небе сцяў.
Жыцця твайго пачатак — травень,
Дзень знебыцця.

Вясне трывогаю травець.
Журбе
Вярбіцца ніца.

...Журыўся на Палессі
Журавель.
Сярпы зубіла
Сіняя сініца...

РЫГОР БАРАДУЛІН

## ЧЫСЦІНЯ

Будуць суха рыпець маразы,—
Быццам снег хто навошчыць
пад вечар...
І для санак крутых палазы
Парыць дзед,
як той кухар,
у печы.
Распусціў на грудзях бараду
І ў дугу гне гарачыя плахі...
Капылы —
звонкі клён,
Палазы —
гнуткі дуб...
Аж дуброваю ў хаце запахла.
Вязе —
з вязу,
Аглоблі —
з бяроз...
Мчацца сані
палямі,
лясамі...
І ў маторны,
закручаны век
я збярог
Чысціню вашу,
звонкія сані.

## ФРАНТАВІК

Дзяліўся ён з сябрамі
глытком вады,
Апошняю зацяжкай папяросы
І крошкай хлеба...
Ён і крывёй сваёю
падзяліўся
З салдатам невядомым,
Калі ў таго
ўжо не было крывінкі
На юным твары...
І выжыў малады баец,
Дайшоў да Перамогі.
А ён загінуў...
І застаўся
жыць!

* * *

Запомніў я:
стары цясляр
З зямлі падняў
сухую галавешку,
Шнур разматаў
з грузільцам-гіркай
І зашчапіў яго
ў камлі сасны.
Ён па шнуры
пашоргаў галавешкай,—
Аж закурэла галавешка зноў,
Напяў той шнур
на бервяне струною
І адцягнуў яе,
як цеціву.
І выцяла яна
крамяны ствол,
Пакінула пісяг —
Па ім часаць
цясляр пачаў...
Падняў ён тую галавешку
з папялішча
У сорак...
добра нам вядомым
годзе.

## ЗАМЕСТ КРЭДА

Калі радок упарты не выходзіць,
Яго сілком не цісні ты ў блакнот:
Хай думкі ў тваім сэрцы перабродзяць,
Нібыта ў бочцы спелае віно.

Дай слову адстаяцца ад налёту,
Каб засвяціўся ў ім жывы агонь,—
Напоўні кубкі за бяседай потым!
Магчыма,
хто і захмялее ад яго...

## ЗІМОВАЯ КАЗКА

Сядзіць мароз і крача —
П'е чай гарачы,
П'е чай пякучы
З цукрам сыпучым,
З іглiцай пахучай...
Накрухмалена кашуля —
Аж рыпіць.
— Дай і нам, дзядуля,
Папіць.
Запрашае мароз:
— Калі ласка!..
Вось і ўся
Для дарослых
Маленькая казка.

## ЭРА МАІХ ПІРАМІД

Будавалі і мы пірамідьі —
Аж яшчэ ў даюнацкую эру
Мы таптаді стагі.
Ногі грузлі у мяккім сене,
А мы грэбліся ў моры духмяным
Угару, угару...

Стог бакі выпінаў,
Як у яйка, крутыя,
Бо кідаў яго сам чарадзей —
дзед Прышчэп.
Ну, а потым, нібы акрабаты,
Мы па слізкай насілцы сігалі
З вышыні на зямлю,
Пачыналі расчэсваць стог.

Толькі дзед заставаўся ў аблоках —
Бог палескіх лугоў...
Шапку з стога не скінуць віхуры,
Абсякуць яго ніткі ліўняў,
Калі стог стагаваў
дзед Прышчэп...
Мы таптаді стагі —
Будавалі свае пірамідьі
І раслі угару, угару...

## БУЛЬБА ЦВІЦЕ

Смугу даўніх раніц ніяк не забуду...
Дымяцца халодныя росы,
Мы ў поле імчымся акучваць бульбу
Чародкай гарластай, босай.

Яшчэ не зусім прачнуліся гоні...
Пастронкі хутчэй раскручвай!
Каб бульбу не елі — пацуглівай коней,
Шыры́ лемяшы ў акучнікаў!

Пакуль злы яшчэ авадзень не прыжарыў
І коні не біліся злюча,
Пад корань, пад корань свірэпку паджарую,
Знішчай дзядоўнік калючы.

Каб рад не падрэзаць — трымай толькі
ручкі.
А клін каму бокам выходзіць?
Сябрук там са злосцю кідае акучнік,
Не хлопец — Мікола, дый годзе...

У небе жаўрук рассыпаецца булькатам...
Прыпынак кароткі зрабілі.
Аблуплены спіны, як ранняя бульба,
Насы, бы яечкі рабыя.

А вечарам млявым замерае соткі
Дзяўчына. Па сто выйшла з гакам!
...Дымяцца у місцы салонікі сопкія:
Вячэра — з павышаным смакам.

Смугу сноў дзіцячых ніяк не забуду,
Хоць леты мінаюць і вёсны...
Калі хто спытае: а як цвіце бульба?
Яму адкажу — дзівосна.

## МЕДАНОС

Вецер з лугу прынёс
Пах духмяны:
То ідзе Меданос —
Хлопец п'яны.

Меданос, Меданос,
Дай ты мёду —
І для пчол, і для вос
Асалоду.

А хлапец у хмялі,—
Дык шчадрыня:
Да яго і чмялі
Нават рынулі.

Дзесь хавае свой нос
Толькі шэршань.
Меданос, Меданос...
Звон сталёвых кос...
Пра цябе не раскажаш вершам.

## ПЕВЕНЬ МАЙГО МАЛЕНСТВА

*Памяці сябра дзяцінства*
*Аляксандра Уласенкі*

Са шпорамі, з какардаю чырвонай
Выходзіў ён на двор, як на парад,
Здаецца, пачапі яму пагоны —
І будзе «Пецяʼ поўны генерал.

Ён грозны быў, як закіпала рэўнасць,—
Ляцеў на ворага мячом тугім,
Да дзюбы — дзюба: вагі бойкі крэўнай
Загойдалі без усялякіх гір.

Ён пільны быў: заўжды барвовы золак
За лесам зашарэлым заўважаў —
І ўміг тады яго хрыпаты голас
Будзіў людзей трывожна на пажар.

Тушыць яго спяшаліся мы, дзеці,
Паклаўшы кнігі ў торбы з палатна.
І лопаў крыламі удзячна «Пеця»,
Нібыта апладзіруючы нам.

Была тады яна, часіна хмурая,
Пара жаночых слёз, жаночых рук...
А у суседкі заспявала курыца —
І зноў-такі прыкмета не к дабру.

І з думкай палахлівай, у трывозе
Суд учыніла ціхая ўдава:
Пад калуном шчарбатым на парозе
Курыная зляцела галава.

Аднойчы ціха стала на дасвецці,
Нібыта вымерла усё сяло...
Сказала маці:
— Закруціла «Пецю»...
Гадзінніка ж у хаце не было.

І я слязамі шчырымі заплакаў
І маці нават папракнуў тады.
А потым еў я звараныя лапкі:
Заўсёды крыльцы й ножкі — маладым...

На ногі не крыўдую, бо па свеце
Я імі ўжо нямала пахадзіў...
А сёння зноў маё маленства «Пеця»
Сваёй далёкай песняй разбудзіў.

* * *

На твае залацістыя косы,
Помню, селі два матылькі,
Быццам макі пунсовыя.
Там яны і заблыталіся,
Пачалі трапятацца...
Доўга яны трапяталіся.
А аднойчы на лузе даспелым
Раптам пырхнулі — і паляцелі.
Як шкада! Я пабег наўздагон,
Каб спаймаць матылькоў тых жаданых...
Доўга бег... Раптам бачу — паселі
На льняную галоўку дзяўчынкі,
Што гуляла ля хаты у класы,
Пачалі, як раней, трапятацца...
Падышоў, зняць хацеў іх рукою,
Ды дзяўчынка сказала з дакорам:
— Не чапай, ты ўжо дзядзя вялікі,
Гэта будуць мае матылькі.

* * *

Зямлю спавілі абручы вясёлак —
Арбіты таямнічыя, дзіцячыя.
Па іх даўно лятаюць спадарожнікі
І мар гарэзных, і квяцістых сноў.

Мой карабель па той арбіце
Таксама плыў, пакуль аж не згарэў...

## МАЦІ Ў ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Ты не ведаеш, мама,
                                        свайго дня нараджэння...
З тваёй памяці выплыў ён месяцам чыстым,
З тваім імем прапала царкоўная кніга,
Дзе запісана ты была грэшнай Улітай...
Ды якое святое тваё жыццё!
Аж дванаццаць дзяцей
                                        цябе звалі мамай,
Дзесяць з іх больш не скажуць ніколі
Гэта слова, адкрытае сэрцам...
За свой век недаспала ты шмат, недаела,
Толькі слёз праліла ты ўдосталь,
Толькі ўдосталь было на руках мазалёў.
Пасівелі даўно валасы твае русыя,—
Можа, гэта на іх асыпаўся попел,
Які ты заграбала ў пячурку
                                        гусіным крылом...
Мама,
            я сплю на тваёй падушцы —
Яна самая мяккая ў свеце,
Яна поўна дзівосных сноў,
Што ўначы разлятаюцца пухам —
Яны часта ляцяць да цябе...
Ты не ведаеш, мама,
                                        свайго дня нараджэння?
Адшукаў я яго, адшукаў!
Ён вясенні, ён чысты і звонкі,
І ласкавы, як вочы твае.
Дык жа з днём нараджэння, мама,
З тваім знойдзеным светлым днём!

* * *

Хварэе стары паравоз — прастудзіўся
Ад лютых вятроў-скразнякоў...
Лятаў разгарачаны часта,
Спыняўся на станцыях стылых,
Ваду ледзяную каўтаў,
І на́ табе — горла хрыпіць...
Хварэе старэча,

На могілкі паравозныя
Выбітым вокам глядзіць.

* * *

Лістапады мае, лістапады,
Залацістыя каруселі,
Падхапілі мяне, панеслі
На агністым сваім кані...

Віражы ён бярэ крутыя
І ўсё скача і скача —
Уладны,
Абмінае трыццаты круг.

«Стой, імгненне!» — хачу я крыкнуць,
Каб яшчэ раз людзей убачыць,
Ды яны мітусяцца ўваччу,
Бы ў кіно абарваная плёнка...

Я гляджу — замільгалі твары:
Дзядзька, хлопчык, дзяўчына...
Далібог, не паспеў іх разгледзець,
Бо ўсё круціцца, круціцца, круціцца
Залатая мая карусель...

## МАЁ РАЎНАДЗЕНСТВА

Сёння маё раўнадзенства —
дзень раўнавагі,
Дзень роздуму і развагі...
З гэтага дня я павінен святлець,
Убіраць у сябе па кропельцы сонца,
З гэтага дня
буду сталець
Розумам,
Сэрцам.

У наступ ідзе
Дзень!
Спадае з воч
Ноч...
Даўжэць пачынае мой дзень,
Святлець пачынае мой дзень!
Значыць, буду я меней спаць,
Значыць, буду я болей бачыць,
І яшчэ
дужа многае значыць...
Раўнадзенства —
мой дзень раўнавагі,
Дзень упэўненасці і адвагі,
Бо ў наступны дзень раўнавагі
Ноч кульне мае вагі...

## МАЛОЧНАЯ РАНІЦА

У студню сыплюцца зоркі...
Я ўстаю, памаладзелы
                    на адну ноч,
Расчэсваю русыя валасы
Сінім грабянцом лесу.
Умываюся —
            аж наваколле грыміць.
Бачу:
      кот — вартаўнік вусаты —
Пазяхае на ўвесь свой
                    ружовы рот.
Ля парога,
Дзе дрэмле камень,—
                    асколак метэарыта.
Гэ, кот не дрэмле,—
Ён першы дэгустатар
                    сырадою,
Яму чуваць,
Як пружыніста б'юцца
У дно даёнкі струмені...
Звіняць,
Звіняць струмені
                над вёскаю...
І ў гэтым цымбальным звоне
Займаецца малочная раніца
   І кліча жыць.

## НАРАДЖЭННЕ ЛІРЫКІ

А я ўявіць хачу далёкі век,
Век пругкай шпагі і рапіры.
...У сцішаным натоўпе чалавек
Спявае свой санет пад ліру.
І струны льюць жывое серабро,
Яно звініць, яно ва ўладзе спеву.
Пяе паэт, і славіць ён дабро,
І ганьбіць зло пякельным гневам.
Пяе паэт. Нямая цішыня —
Пачуеш нават, калі дзынкне муха.
Людзей ён песняй звонкаю абняў,
Ажно чуваць, як сэрцы б'юцца глуха.
Гісторыя, спрадвечная, як свет,
Замнога тайнаў у сабе хавае...
Нядаўна верш чытаў сівы паэт,
І, як заўсёды, крышку падпяваў ён,
Маланкі бліскалі з яго вачэй,
А верш іскрыстым сонцам
быў сагрэты,
Ды толькі побач нехта прабурчэў:
— Чытаюць вершы кепска
ўсе паэты.
Я ж водгулле стагоддзяў пазнаваў,
Лавіў яго душою шчырай...
Сівы паэт, ён сэрцам падпяваў,
Бо не было ў руках
вясёлай ліры.

## ГУСІНАЕ ПЯРО

Ён быў таксама смелы вынаходнік,
Хто першы выскубнуў з крыла пяро
І вывеў ім рукой дрыжачай слова...

З тае пары ў пашане сталі гусі,
Іх пер'е разляцелася па свеце,
Бялюткае, як першы снег.

І мудрацы з завеямі барод
Пры свечках селі у сырых мурах,
Пяром гусіным пачалі рыпець...

Пяро каўтнула дзюбкаю чарніла,
На міг застыла ў пушкінскай руцэ
І паляцела лёгкай-лёгкай птушкай...

Паручык Лермантаў здымае шпагу
І падыходзіць да стала —
І пёры, быццам бы ў калчанах стрэлы,
Па-грознаму тырчаць...

Салдат Шаўчэнка пазірае ў неба —
Там гусі, гусі вольныя ляцяць...
О, хоць адно б яны згубілі пёрка —
Пісаць гатовы ён сваёй крывёй...

Вякі ламалі шмат мільёнаў пёраў,
Вякі падрэзалі мільёны крылляў,
І ўсё ж на іх да нас ляцела слова
З глыбокай, нібы памяць, далі.

## НЕ ТРЭБА КАЛЫХАНАК

Лю-ля, лю-лі, —
мы пішам калыханкі.
Спяваем іх дакучна
немаўлятам:
Яны не папракнуць за фальш у слове,
Якое, як пусцёлка,
шамаціць.
Лю-ля, лю-лі; ды спаць не хочуць дзеці.
Звіняць іх галасы
шчаслівым плачам,
І толькі, залюлюканыя самі,
Мы засынаем
над сваім радком.
Не трэба болей калыханак!
Годзе!
Хай уварвецца ў верш
уладны вецер
І бразне,
раззлаваны,
форткай —
Хай песня абуджэння
загучыць.
Нажом распаласуе
сон пуховы,
Заспаным вокам
лыпне гаспадар.
Час уставаць —
займаецца заранак,
Дзень залацісты
мог бы ты праспаць,
А ў гэтага
сумленне спіць спакойна.

Хоць чыстае яно,
як тая сажа,
Будзіць яго трывожным звонам трэба
І лямпачкай чырвонаю
міргаць.

Дык пойдзем разам
з песняй абуджэння,
З трывогаю і думкаю у сэрцы.
А калыханкі
мы пакінем маці —
Бо лепш, чым маці,
Нам не скласці іх.

* * *

Я па зрэбным бягу палатне,
Што бяліць разаслала маці
На траве ля калінавай копанкі...
Гэта ж трэба выткаць
                    такую дарогу!
Я бягу,
        а ёй краю няма:
Паміж жыта даспелага разаслалася —
На бальшак пакаціўся сувой
Праз палеткі, лугі і лясы...
Перуны, грукачыце!
Ліўні спорныя, йдзіце!
І бяліце дарогу маю,
                    што выткала маці...

## ЛЯСНЫ РЭКВІЕМ

Пні —
помнікі памёршым дрэвам...
Няпраўда, што яны глухія!
Яны умеюць ціха гаварыць...
Вось пастамент.
На ім нядаўна
Сам волат пушчы велічна стаяў,
Ды рухнуў ніцма, распластаўшы рукі,
Скасіў яго уладны ўдар мяча...
І толькі зморшчыны на пні дубовым
Расказваюць пра волата свайго.
Лічу гады сасны...
Памерла рана
Ад той стралы, што некалі ўпілася
Ёй проста ў сэрца...
З бурштыну помнік выліты сасне,
Бялюткі абеліск...
Каму ён?
Тут юная загінула бярозка
Ад нечай злой рукі.
Іду між помнікаў лясных,
чытаю,
Лічу гады памёршых дрэў.
Як рана паміраюць дрэвы!
Прыслухайся —
Тужліва дрэвы
Над помнікамі гэтымі шумяць...

## СМЕРЦЬ САЛАЎЯ

Вось так і памёр:
раптоўна,
На самай высокай ноце,
Памёр ад разрыву сэрца спявак...
Маленькая салаўіха
засталася ў самоце,
Не хоча паверыць у смерць аніяк.
Навошта ён браў на сябе больш,
чым бяруць другія,
Хапіла б і не дванаццаць,
а восем кален...
Чаму толькі цяпер
яму заспявалі гімны,
Толькі цяпер,
калі ўжо скалеў?
Сядзіць салаўіха на галінцы ў сумоце,
Не хоча паверыць у смерць аніяк...
Вось мне б так памерці —
на самай высокай ноце!
І быў бы шчаслівы я.

## ЧЭСЦЬ

Паручык Лермантаў, вы не аддалі чэсць
Мішурнаму, напыжанаму чыну,
І ён вам вымавіў, нібыта хлапчуку.

О дуралей з рагатымі вусамі!
Хіба ён мог хоць крышку зразумець,
Якія думы абдымалі вас...

Паручык Лермантаў, ізноў стаіце вы
На пышным бале, скрыжаваўшы рукі,
Калі другія выкрунтасяць па...

Ім вас не зразумець, яны глухія
Да светлай радасці, да болю, да журбы,
Да чалавечай годнасці глухія...

Паручык Лермантаў, вам дзякуй
за партрэт:
Вачэй самотных цеплыня густая,
І глыбіня іх, глыбіня, як мора...

Мы разумеем вас, паэт,
Мы вашыя адданыя салдаты.
Паручык Лермантаў! Прыміце нашу чэсць!

## ЗРЭБНАЯ НІТКА

Вытанчаная з мяккай сівой кудзелі
Добрымі пальцамі маці,
Кожная кастрычынка ў табе
выгрызена зубамі...
Зрэбная нітка!
Цякла ты на верацяно бухатае,
Кружыла ў танцы
нязграбнае матавіла,
Намотвала арбіты на клубок.
Спляталася потым у асновы
Тугія, як дзявочыя косы,
І залацістыя грэбні бёрдаў
Суладна часалі іх...

Ты нітка зрэбная, трывалая,—
Мае дзіцячыя штонікі,
Карою дубоваю фарбаваныя,
Не рваліся
на самых калючых платах...

Ты нітка рэзкая,
Парваць не парвеш —
рукі парэжаш,
І нават перарэжаш ты
Горла бутэльцы —
толькі дзынкне ў вадзе яно!
Ссуканая ў дратву
у некалькі столак,
Навошчаная да скрыпаты,
Ты лямец валёнка прыхопіш,
Нібыта зубамі воўк...

Кажуць, што ты цяпер устарэла,
Больш далікатныя ніткі
лезуць у вушкі іголак.
Што ж, надышоў іх чарод...
І толькі шаршаткі помняць
Цябе, бо для іх ты — радня.

* * *

Веру я, што у маці ёсць крылы,
Яна птушкаю можа лятаць,
Ды не той легкадумнай зязюляй,
Што сваіх разгубіла дзяцей.
Кнігаўка неспакойная — маці,
Яна будзе лятаць у трывозе
І кружыць над зямлёй рызыкоўна,
Каб ад нас адвесці бяду...
Як бы добра было, калі б крылы такія
І ў нас выраслалі таксама,
Каб да маці заўсёды ляцець.

* * *

Ілбамі трэснуліся з лёту хмары —
Ажно маланкі зыркнулі ўваччу,
Пасыпаліся ўніз сухім ламаччам...
І бацька-гром на дочак грозна
гыркнуў:
— Чаго вам біцца,
хопіць кожнай шоўку,
Падушак хопіць,
мяккіх, пухавых.
З капрызам дочкі — ўсхліпамі зайшліся
І горкімі заплакалі слязьмі...
А ластаўкі ляталі і смяяліся:
Ім тыя слёзы толькі смакаваць.

* * *

Гаспадынькі, варам шпарце чаны —
Патужэлі, падужэлі качаны.
Як мароз, рыпяць яны ў руках,
Кожны звонкі, кожны сіверам прапах.
Эх, любата іх будзе шаткаваць!
Дзеці храпкі будуць каштаваць.
Не кажыце, не кажыце,
што ў гародзе пуста,
Паглядзіце, паглядзіце —
вырасла капуста.
На стол ляжа шаткаванка,
як сумёт,
Сыпанецца ў дзежку снегам —
і пад гнёт.
Не кажыце, не кажыце,
што ў гародзе пуста,
Паглядзіце, паглядзіце —
соліцца капуста!

* * *

Паўзуць чарапахі
на пясчаны бераг
Адкладваць яйкі.
І, загробшы яйкі
ў гарачыя гнёзды,
Мкнуцца зноў
да вады дапаўзці.
Ды паміраюць чарапахі,
не ўбачыўшы болей мора...
А чарапашанняткі,
ледзь толькі вылупяцца,
Да мора шыбуюць імкліва
па слядах сваіх панцырных продкаў...

* * *

Накашу я табе росных кветак,
Душных смолак, бялявых рамонкаў,
Медуніц і ружовых зязюлек...
Не бядуй, што завянуць яны...

Ты ж лугоў гаспадыня
і знаеш:
У нас кветкі не дораць — стагуюць,
Застагую і я свае краскі.

Можа здарыцца, зорнаю ноччу
Забрыдзем мы ў тыя харомы,
І духмяныя кветкі ўплятуцца
У твае валасы...

* * *

Напрарочылі мне злыя цёткі,
Калі я ў іх пытаўся ў маленстве,
Скуль у нашай суседкі узяўся
Маленькі Пятрок.
«Шмат пазнаеш —
хутка састарэеш»,—
Так мне цёткі з усмешкай
казалі.
Я хацеў шмат пазнаць.
І старэў.
А цяпер я — стары,
бо ўжо многае ведаю:
Чалавек нарадзіўся з істоты,
Дыназаўрам ён быў і малпаю
І яшчэ кім ён толькі не быў...
Я стары ўжо, бо шмат чаго ведаю
Пра цябе, Чалавек.
Ды пытацца яшчэ
мне пра многае трэба —
Ад чаго чалавеку даецца каварства,
Хцівасць, злосць і двурушнасць,
І варожасць найлютая...
Ад чаго?
Я гатоў пастарэць,
хоць сёння сканаць,
Толькі б людзі хутчэй
на пытанні мае
Адказалі...

* * *

Я збіраю людскія трывогі...
Найцікавейшая калекцыя.
Гэты боль я ўзяў у дзяўчыны,
Якую пакінуў каханы.
А трывогу вось гэтую напаткаў я
ў дарозе —
Яна ціха кудысьці брыла...
Гэты сум
я знайшоў у лесе —
Павуцінкай матляўся ён на галінцы...
Я прасіў, каб чужая маці
Аддала мне тугу
па загінуўшым сыне,
Ды яна не схацела
з ёю расстацца...
Я збіраю людскія трывогі
У сваё неспакойнае сэрца,
Я шукаю сабе напарнікаў,
Каб стварыць таварыства
Па збіранню людскіх трывог.

## ЗАПІС У ВАЙСКОВЫМ БІЛЕЦЕ

«Да вайсковае службы не годзен»,—
Гэтак мне запісалі
ў білеце ваенным...
Перад гэтым я быў з паўгадзіны Адамам,
Што спакуслівы яблык
яшчэ не сарваў,
Бы яблык, ірдзеў, як мяне аглядалі
ўрачыхі.
Мне глядзелі у вочы,
шукалі ў іх мінусы,
Я ж дадатна на свет пазіраў.
Мне шаптала здалёк жанчына
Лічбы простыя па сакрэту,—
Я ж сакрэт той
услых выдаваў.
Доўга слухалі сэрца ўрачы...
Яно штосьці збівалася з рытму,
Як збіваецца з рытму
цяпер і мой верш.
І сказалі пасля:
— Не годзен.
Парадзела шарэнга салдатам
адным...
Парадзела?!
Не, гэта я хлушу,
Я стаю невядомы ў страі.
І як толькі навісне пагроза
Над маёю агністай Радзімай,
Я свой пункт прызначэння знайду.

## ДОМ ІНВАЛІДАЎ

Замест ног — дзіцячая калясачка,
Коціцца паўчалавека,
Зямлю адпіхваючы ад сябе рукамі...
Вобмацкам ціхім ідзе сляпы,
Кійком выбірае дарогу,
І ногі адчуваюць,
якая няроўная зямля...
Гэта дом інвалідаў,
Гэта самыя строгія людзі,
Самыя строгія суддзі зямлі.

* * *

Магчыма, мёртвы я расплюшчу вочы,
Вы не кладзіце мне на вейкі медзь:
Яшчэ жывыя зрэнкі — яны хочуць
Глядзець!

І ажыву, здаецца, на мінуту,
І сэрца запульсуе маё зноў,
Калі ў вачах сяброў заўважу смутак,
Маіх сяброў...

* * *

Пара мінула шпаг і пісталетаў,
Што спрэчкі грозна вырашаць умелі...
Цяпер адны раўнівыя паэты
Вядуць свае шматслоўныя дуэлі.

Нібыта куляй, паляць зрэдку вершам,
Ды часам порах сыплецца не ў меру...
Смяльчак не той,
                    хто выклік кінуў першы,
А хто спакойна
                    падышоў к бар'еру.

* * *

Маё лета сівой павуцінкай
Яшчэ ў ціхія сны не сплыло...
І ў мяне будуць дзесьці дажынкі,
І ў мяне будзе свой умалот.
І шкада, што найменшай паловай
Будзе зерне, найбольшай — палова...

* * *

У снезе куляюцца
снегіры,
Быццам выскачылі
з лазні...
Сонца,
нібыта ў сне,
гарыць,
Вераб'і
пад застрэшша залазяць.
У снегіроў —
сваё белае свята!
Хто іх агонь патушыць?
Цікуе з-пад плота
кот вусаты
З думкаю аб сваёй
жар-птушцы.

* * *

Уздыхае цяжка конь стрыножаны,
Быццам кенгуру,
раз-пораз скокне...
Ён адзін цяпер
на лузе скошаным
Пад асенняю імжакай мокне...

Дзе сябры з іх крутагрудай сілай,
Што аж ніцма клаліся ў скаку?
Дзе яна, пужлівая кабыла,
Што, дзіця ратуючы, зрушыла
Горла ненажэрнаму ваўку?

Дзе табун —
круты цыганскі табар,
Што начамі цёмнымі не раз
У клубок збіраўся
слухаць,
мабыць,
Хлапчукоў віхрастых ля кастра?..
Уздыхае цяжка конь стрыножаны,
Быццам кенгуру, раз-пораз скокне...
Ён адзін цяпер на лузе скошаным
Пад асенняю імжакай мокне...

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Не зачыняйце юшкі,
не зачыняйце вокны
Вясковай хаты —
яго святліцы.
Сэрца не ўздрыгне,
сэрца не ёкне —
Колас жа любіць
навальніцу!
Што ж ты,
калматая хмара,
развесіла
Аж да зямлі
махрыстыя ніці?
Коласу ж трэба
магутнае крэсіва,
Колас жа любіць
навальніцу!
Гром,
не бубні
па шпаргалцы нябеснай,
Грукні,
каб
лозы хіліліся ніца!
От,
па душы
гэта грозная песня —
Коласу ж трэба
навальніца.
Не зачыняйце юшкі,
не зачыняйце вокны
Вясковай хаты —
жыцця святліцы.

Сэрца не ўздрыгне,
сэрца не ёкне,
Нас навучылі
любіць навальніцу
Вы,
Канстанцін Міхайлавіч...

* * *

Арлу распялі крылы
І змералі размах — два метры...
Каб узмахнуў ён імі зараз,
Дык ураган
                    пранёсся б па музеі,
І нават, мёртвыя,
                              ад страху б задрыжалі
Зайцы,
            лісіцы,
                        барсукі,
                                    ваўкі...

* * *

Адамкнуў бы я лета,
Асвятліў далячынь,—
Журавы ж на край свету
Дзесьці знеслі ключы...

## РАДАСЛОЎНАЕ ДРЭВА

Мой кашчавы,
суровы прадзед,
Сплецены з адных сухажылляў,
Стомы не меў у працы,
З галоднай зямлі жыў ён.
Дзірваны
нарогам ірваў ён,
Сківіцы сцяўшы да болю.
Не было ў яго
мазалёў крывавых,
А былі, як панцыр,
набоі.
У кашулі,
нібыта ў кальчузе,
Што служыла і ў будзень,
і ў святы,
У шынку піў гарэлку ў хаўрусе,
Згробшы кубак рукой сукаватай.
І тады адчуваў
сваю волю,
Біў у грудзі —
яны грымелі,
І з падстрэшша брывоў
вуголлем
Вочы яго гарэлі.
І ад іх аганьку,
напэўна,
Пад санлівы і стомлены ранак
Крыллем ўзвіўся чырвоны певень
Над сядзібаю пана.
Прадзед мой
пайшоў з галыцьбою

З лапатушнай касой
па лесе.
Для паноў ён быў
першы разбойнік,
Для людзей жа — музыка
і песеннік...
Як збіраліся птушкі
у вырай
На сваім
шматгалосым вечы,
Зазвінеў
кайданамі ў Сібір ён
З Беларусі —
навечна...
Мой кашчавы,
суровы прадзед,
Сплецены
з адных сухажылляў,
Жыў
і Воляй,
і Працай,
і Праўдай —
Імі памяць сваю
заслужыў ён!

* * *

Яшчэ не ўстала сонная залева
І золак, быццам яблык, не крамян,
А я шукаю ў лесе тое дрэва,
Дзе і маё запісана імя.

Я дзесьці там, на самай вяршалінцы,
Руку крутую ў небе распусціў.
І рады я, бо на маёй галінцы
Паспеў таксама хтосьці адрасці.

Лёс церабіў маё зямное дрэва,
Яго хістаў у розныя бакі.
Вякоў сівая памяць у ім дрэмле,
Пра боль яго маглі б сказаць сукі.

Стаю адзін, нібыта ў сутарэнні,
Застыгла раннім холадам зямля...
Ды веру я,— не вымерзнуць карэнні,
Бо я — пачатак, і працяг — сам я!

* * *

Скінуў лось рогі...
Густыя кручоныя рогі
мякка ўпалі ў траву.
Ён пастаяў задумліва трохі
І горда ускінуць хацеў галаву.
Забыўся, што скінуў карону...
Стаяў ён разгублены, смешны без рог.
Лось выцягнуў шыю і раптам скарона,
Трывожна зароў.
Галёкнула рэха [illegible] адчаем
І змоўкла, як птушка ў галлі...
Лось помніць, як рогі у бойках трашчалі,
Як ворага гнулі яны да зямлі.
Ён з бойкі выходзіў прыгожы:
У жылах кіпеў шчэ бурлівы агонь.
Ён быў, як паветра, ён быў пераможац
І ведаў — яна ўжо чакае яго...
І скінуў лось рогі...
Знаходкай шчаслівай
упалі яны на зямлю...
На вешалку з іх
хтосьці паважны і строгі
Павесіў сёння
свой капялюш.

* * *

Апусцелі ад стрэлаў калчаны,
Ціха коні пайшлі на пагост...
І не плакалі хлопцы — крычалі,
Як пад кулі ішлі ва ўвесь рост.

Вусны смерцю халоднаю сцяты,
І вачэй палымнее агонь...
Правяралася так вернасць сцягу,
Як барвовілі раны яго.

Я шкадую тугімі начамі,
Што да часу таго не дарос,
Як не плакалі хлопцы — крычалі
І пад кулі ішлі ва ўвесь рост.

* * *

Вёску бралі без бою —
Вёску бралі з болем.
Вёску бралі раніцай спелай —
Вёска ж ноччу трывожнай чарнела.
Дуб старэчы за суткі высах —
Асыпаў сівізну сваю прысак...
І стаялі счарнелыя печы
З пераваранай бульбай,
З выкіпеўшай капустай,
З акамянелым хлебам,
З падгарэлымі дранікамі
І яшчэ, яшчэ з нечым...
Вёску бралі без бою —
Вёску бралі з болем.

* * *

Не бывае салёнага дажджу,
Пот салёны бывае...
Па зямлі я палескай хаджу,
З нетраў слова сваё здабываю.

Я збіраю крышталь зімой,
Ізумрудам дзіўлюся летам...
Ходзіць поруч надзея са мной —
Мне хоць крышку б знайсці
самацветаў.

* * *

Не смяяцца трэба, не смяяцца
З залатых маіх акон...
Я стаю з усмешкаю паяца,
І з усіх бакоў я вам відзён.

І знікаюць трапяткія цені,
Вецер раскудлаціў іх і сціх...
Я ніколі не іграў на сцэне,
А тым больш ніколі —
у жыцці.




У студэнцкім інтэрнаце, 1957



Студэнты ў калгасе (злева направа):
Сымон Блатун, Генадзь Бураўкін,
Васіль Зуёнак, 1955

## ДЗЯЎЧЫНА
## НА ВОДНЫХ ЛЫЖАХ

Галавы палае факел рыжы,
На вятры трапечацца, зіхціць.
Вы зірніце — па вадзе на лыжах
Дзеўчына, як ластаўка, ляціць.

Стройная смуглянка-чарацінка
З сонцам, з морам выбегла дружыць...
З пырскамі цалуецца дзяўчынка,
Ломячы крутыя віражы.

Эх, ляці, ляці з вясёлым смехам
Па вясёлай сонечнай вадзе!
Праляцела чыстым, звонкім рэхам...
Адчуваю — свет памаладзеў.

* * *

І скажуць: «Быў яшчэ ж ён малады...»
Паўстану я ў кагосьці прад вачыма.
Зязюлямі падлічаць мне гады
Суцішана трывожныя жанчыны.

І скажуць так: «Ляжаў ён, як жывы...» —
Упершыню спагадліва і шчыра.
Цішэй вады, ніжэй травы...
Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы,—
Я адлятаю ў свой далёкі вырай.

* * *

Мне б таксама
знайсці падкову,
Згубленую вольным канём...
І панёс бы тады
сваю мову
Я з крылатым агнём.
І магчыма б, і я
пакратаў
Срэбра рэчак
і соснаў медзь...
Гатовы струною напятай
Над краем сваім
звінець!

* * *

Мне хоць трошкі раўнавагі трэба,
Бо характар у мяне такі:
Жураўля я не спаймаў у небе,
А сініцу выпусціў з рукі.

## КРУТАВЕРЦІ

Нораў суровы, круты
у крутаверцяў —
Пульсуюць напружаным токам.
У крутаверцях
не водзяцца чэрці,
Іх болей у ціхіх затоках.
Пясок крутаверці,
як жорнамі, мелюць,
Шпурляюць, калючы,
рэзка.
Дзе ёсць крутаверці —
там меней меляў,
Там строгія, гордыя рэкі.
Люблю і ў жыцці
буруны, крутаверці —
Кідаюць мой човен са злосцю...
Я мушу ў іх буйную сілу
паверыць,
У сілу крутой маладосці.

* * *

Пакрыўдзілі мы продкаў
Знявагаю — «старызна»...
Да іх нямых папрокаў
Прыслухацца карысна.

Даніну новай модзе
Так часта аддавалі:
Што пражыло стагоддзі,—
За дзень мы зруйнавалі.

Спахопяцца нашчадкі,
Успомняць нас папрокам...
Дык будзем жа ашчаднымі
Да ўзнёслай думкі продкаў!

Мы з ёй — з адной пароды,
Яна неаддзяліма,
Як мова ад народа,
Ад сённяшняй Радзімы.

* * *

А мы з табой смялелі і смялелі
І пацалункі нашыя сплялі,
І сонца расцякалася па жылах,
І нас з табой кружыла і кружыла...
Плылі сузор'і касякамі ў небе —
І мы закінулі на шчасце невад,
Спаймалі плойму серабрыстых знічак,
Як рыбак трапяткіх, ды невялічкіх.
І адпусцілі зноў іх на прастору —
Гуляйце, вольныя, у вольным моры!
Луской мільгайце іншым закаханым
Ад першых пацалункаў п'яным, п'яным...
А мы з табой смялелі і смялелі,
І пацалункі нашыя даспелі —
Не расцякаецца па жылах сонца,
Жыццё нас кружыць манатонна,
сонна...
І б'ецца пульс нервова і трывожна...
Вось так згараюць, пэўна, спадарожнікі,
Калі з прыволля без граніц і меры
Яны трапляюць ў тоўшчу атмасферы.

## СКРАЗНЯКІ

Скразнякі —
малыя буравеснікі —
У акно
ірвуцца напралом,—
Лапацяць фіранкі,
быццам ветразі,
Завіруха кружыць
над сталом.
Скразнякі
віхурыста-адчайныя
У галоп хапаюць
пад бакі...
Нават ляпаюць дзвярыма
падначаленыя,
Калі дзьмуць
тугія скразнякі.

* * *

Сынок падбірае
першыя словы,
Каб зматаць з іх
маленькі клубочак,
Знітаваць першароддзя
аснову
Хоча.
Я цябе разумею, Сашка,
Як адшукваць словы цяжка...
Па складах,
нібы па калдобінах,
Ты ідзеш падарожнікам
кметным,
Усміхаешся людзям
усмешкаю добрай,
Ветлай.
І не ведаеш ты,
што і цінаю
Абрастаць могуць словы на свеце...
Адкрываеш ты кнігу дзяцінства,
Мой маленькі паэце.

## НЯСКАЗАНЫ МАНАЛОГ ГАМЛЕТА

Я — дацкі прынц, я нескароны Гамлет,
Умею ненавідзець і любіць.
Я свет перавярнуў уверх нагамі
Пытаннем: «Быць альбо не быць?»

Я — дацкі прынц, заручаны са славай,
А жыць павінен як сярод бадзяг.
Вулкан патухшы... Ды клякоча лава
Няспынна у распаленых грудзях.

У сэрцы болей думак, чым адвагі,
Тут хітры бой вядуць дабро і зло.
Хачу рвануць я з ножнаў дзіка шпагу
І цемрадзь векавую пракалоць.

Ды застываюць пальцы на эфесе
З чаканнага крутога серабра...
Я не хачу крывавага эфекта,
Я раб страсцей, і ўсё ж я іх не раб.

Дык смела ў бой! Бязлітасна нязвыклы,
Дзе боль пякучы трэба мне забыць.
Сумніўшыся, кідаю горда выклік:
«Быць альбо не быць?»

* * *

А будзе так — зальюцца салаўі,
Зязюля ў лесе гулка закукуе...
Ну, а пакуль што сіні сакавік
Свой сок бунтоўны для зямлі гатуе.

Ды чую я, як молада гудзе
Зялёны шум у сугалоссі з птаствам,
Няхай зіма у наступ злосна йдзе,
А людзі кажуць, што вясной запахла.

Я чую капяжоў цымбальны звон
І крыгалому гром прывольны, весні...
Прачнецца ў звонкім лесе
кветка-сон,
Расплюшчыць вочы сіняя пралеска.

І я ўвайду ў трывожную красу
Абавязкова самы, самы першы.
Табе, адзінай, кветкі прынясу,
Загорнутыя ў сціплы верш мой.

## РУСАЛКА Ў ЖЫЦЕ

От жа дзіва, дзіва, не кажыце,—
Між вусатых звонкіх каласоў
Дзесь хаваецца русалка ў жыце
З доўгаю распушчанай касой.

Надвячоркам перапёлкай кліча
Дзецюкоў — вясёлых недарэк,
А каго спаймае — заказыча
Ды ўсміхнецца зорам з-пад павек.

Потым спаць яна спакойна ляжа,
Падаслаўшы валасы пад бок,
На світанку возьме ды завяжа
У калоссі выспелым чубок.

...Мы паспелі вырасці, пажыці,
І для нас дзяцінства ўжо, як сон...
Ці жыве яшчэ русалка ў жыце
З доўгаю распушчанай касой?

* * *

З дому ліст...
А на ім — дзіцячая ручка
І каракулі —
«ТАТА...».
О як такі ліст хваляваў
Франтавога салдата!
Можа, сёння,
як пушча, заросны геолаг
Атрымаў
вось такое ж пісьмо...
О колькі цяпла
прынесла яно!
І марозны палярнік
сагрэты таксама:
На лісце ж —
ручка малога сынка,
Яе абвяла старанна
мама,
Маміна ласкавая рука...
Просяць рукі дзіцячыя
проста
Скараціць хутчэй усе ростані.
Ды зрабіць гэта
нельга татам —
Ім трэба быць салдатамі,
Ім трэба плаваць па моры,
Варочаць горы,
Пакараць неба...
Ім многае, многае трэба!
Як праменьчыкі ў час дакукі
Для іх пісьмы,
дзіцячыя рукі...

* * *

Адплываюць чыесьці вочы,
Адплываюць чыесьці рукі
У вятрыстым акне вагона.
Нечы боль
і нечыя мукі
Застаюцца ў самоце перона...

Застаюцца чыесьці вочы
У маўклівай тузе расстання...
Паязды адыходзяць ноччу
І звычайна вяртаюцца раннем.
З надзеямі і спадзяваннямі.

## ДАНІНА БЯРОЗ

У гісторыі свой напамінак...
Як да продкаў маіх — крывічоў
Ехаў князь атрымаць даніну,
А яе здабыў ён мячом...
Ехаў сам ён,
з гневам, з пагрозай,
Жорсткі з жорсткіх зямных багоў...
Разгнявіў ён тугія бярозы,
І яны разарвалі
на часткі яго!
За знявагу, за лютасць і кпіны
Атрымаў князь сваю даніну...
...Гром вайны,
працяглы і грозны...
Застагнаў, устрывожыўся бор.
Спахмурнелі сурова бярозы...
І стралялі ў чужынца ва ўпор.
Атрымаў крыважэрны чужынец
Ад бяроз маіх шчодра даніну!
...Да бярозак прыйшоў я ў госці...
Яны быццам стаяць у сне...
Страпянуліся мякка голлем,
Замахалі прыветна мне.
І здаецца, радасці слёзы
Сыпануліся з іхніх веек...
Колькі сэрцу даеце, бярозы,
Самых чыстых павеваў!
Як вясна надыходзіць з гоманам
І як першы вуркоча гром,—
Вы гатовы, бы тыя донары,
Мне аддаць сваю нават кроў.
О бярозкі маёй краіны!

Свой характар у вас пазнаю...
Я прымаю вашу
　　　　　　　　даніну,
Вам даніну сваю
　　　　　　　　аддаю...

## САЛДАЦКІ РАМЕНЬ

Няма шырэй,
чым рамень салдацкі,
Няма тужэй,
чым рамень салдацкі.
Ён сурова сцягвае пояс салдацкі.
І ўсё роўна:
— Убраць жывот! —
Старшына загадвае
І два пальцы пад рамень прасоўвае...
Няма мацней,
чым рамень салдацкі,
Няма ярчэй,
чым рамень салдацкі,—
На шынялі і на гімнасцёрцы
Ярка свеціцца спражка зоркаю,
І каб заўжды
яна ззяла золатам,
Салдат чысціць яе
асідолам...
Найшырэйшы рамень — салдацкі,
Найтужэйшы рамень — салдацкі,
Наймацнейшы рамень — салдацкі,
Найярчэйшы рамень — салдацкі.

* * *

Пагаліўся месяц — аж бліпічыць,
Хлопцам стаў зухаватым.
Мкнецца хмарку злавіць,
За сябе пасватаць.

Уцякае хмарка
Ад месяца шпарка.
— Ты мне недарэчы,
Месяц-старэча.
Мне мілей на свеце
Вольны вецер...

Покуль ішлі змовіны
У сузорных высях,
Салаўі не ўцямілі —
Заручыны справілі,
Півам бэзавым
упіліся.

## ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

Гэтак звонка й радасна наўкола,
Хоць без дай прычыны закрычы.
І качаюць па гразі вясёла
Хлапчукі тугія абручы.

Разбудзілі вуліцу іх крыкі,
І такі шчаслівы іхні смех,
Сам, здаецца б, скінуў чаравікі,
Падкасаў калошы і пабег.

Паімчаўся б пад руччоў гаворку
На абгонкі з вёрткім хлапчуком.
І вясёлку, пэўна б, з-за пагорка
Выкаціў цалюткім абручом...

## ВЕСЯЛУХА

> Весялуха, весялуха,
> Ці на дождж, ці на суха?
>
> *Дзіцячая прымаўка*

Не вясёлка — пэўна ж весялуха!
Пад тваёй дугой, крутой, выноснай,
Столькі срэбраных званочкаў
заліваецца...

Ты дачка дажджу і сонца, весялуха,
Хрэсніца сівога перуна
І маланак родная сястра.
Дзецям адкажы —
яны ж пытаюць,
Ці сваё вязьмо развяжа сонца,
Ці шнуркі распусціць дождж ізноў.
Прамаўчала, звонка пакацілася
Весялуха за гарбаты лес...
На пытанне адказала сонца.

## ЛАСТАЎКІ

Праляцелі
гаманкой чародкай
З песняю трывожнай,
песняй шчырай;
Іх прыпынак тут,
як дзень, кароткі,
Шлях нялёгкі у далёкі вырай.
Абляпілі правады прыветна
І застылі
у задуме строгай,
Быццам верацъ
і яны ў прыкмету —
Моўчкі пасядзець
перад дарогай.

## НОЧ

Я — кухар ночы.
Бяру я коўш Мядзведзіцы Вялікай
І чэрпаю з азёр ваду.
Яна дажджом цурчыць назад праз сіта,
І паглядзі, што робіцца ў каўшы!
У медных панцырах санліва карасі
Маленькімі ратамі пазяхаюць,
Шчупак крутнуў акрабатычна сальта —
Маляўкі пачалі яму пляскаць.
Падлешчык дыхае, нібыта занядужаў,—
Падушку з кіслародам яму б даць.
Ага, і ты, пісклявы ўюн, патрапіў,
Віляй-віляй, ад юшкі не ўвільнеш...
Я — кухар ночы.
І саган чумазы
Да белай пены дапяку.

## ДЗЯРКАЧ

Па балотах, імшарах, трысці
Пешшу дыбае ў вырай дзяркач —
У далёкую Афрыку крочыць.
На дзябёлых нагах у яго мазалі,
Асакою парэзаны ногі...
До яму спачуваць!
За плячыма ж нясе
не слабыя ён крылы —
Імі б толькі па небу сігаць...
Дзеркачу ж тыя
крыллі ў цяжар.

## ПЕНСІЯНЕРЫ

Было іх трое ў маці —
дробных дзетак.
І раз штомесяц да іх у хату
заходзіў дзядзька Пеця
З прыплюснутым, як шланг пажарны,
рукавом...
Ён корпаўся рукой
у абшарпанай сумцы,
Што на плячы вісела
на рамні брызентавым,
І нейкую паперку даставаў.
Даваў агрызачак алоўка маці,
Паказваў пажоўклым ад курэння
пальцам:
— Наталля, распішыся тут...
Яна марудна літары выводзіла,
Губу зубамі прыкусіўшы,
А потым брала асцярожна грошы
з рук паштальёна...
І ведалі яны — за бацьку...
Ён застаўся на вайне.

* * *

Давай пакуляемся ў саломе,
У золата дадзім нырца —
І пачуем жытнёвы гоман,
Прахалоду адчуем карца.

І пачуем далёкае рэха,—
Як суладна гамоняць цапы...
Утыркнуты даўно пад стрэхі
Незублёныя ў кузні сярпы.

* * *

Не ведаю — зімою альбо летам
Мой абарвецца неспакойны век...
А дзесьці недалёка ў момант гэты
Зальецца плачам новы чалавек.

І ў міг, калі я свет круты пакіну
І певень глуха тройчы пракрычыць,
Камусьці перавяжуць пупавіну
Сардэчныя і мудрыя ўрачы.

Ён будзе цешыць іх забаўным піскам,
Зажмураны й чырвоны, як агонь,
Такі маленькі, што, дальбог, калыскай
Яму была б шырокая далонь.

Снягуркі-акушэркі ўзважаць чынна
І выпішуць шчаслівы нумарок...
Не бабка-павівалка, а дзяўчынка
Яго завяжа смела ў вузялок.

Магчыма, хлопца Сенем назавуць,
Ды не бяда, як будзе ён Валодзя...
Я не пакрыўджуся, я ціха адплыву —
Жыццю на змен
жыццё прыходзіць.

## ЛЯ ДОШКІ ШКОЛЬНАЙ

*Памяці маёй настаўніцы*
*Ганны Сяргееўны Рослік*

Вы заходзіце ў клас...
Я ўстаю з-за апошняй парты,
Даўгарукі і даўганогі.
Парта не дае мне
выпрастаць калені.
Прабачце,
я прыхілюся спіной да сцяны...
Гэта ж я, ваш вучань з «камчаткі»,
Не выклікайце мяне да дошкі:
Я дрэнна сёння вывучыў урок...
Буду марна блукаць па крузе,
Трохкутнік у мяне паламаны
І адной паралельнай няма...
Усміхаецеся вы гэтак мякка і добра:
«Можа, гэта толькі гіпотэза?
Я прашу даказаць».
Вось і крэйда ў маёй руцэ —
Вугал а бэ цэ...
Сапраўды аказаўся прамы!
Быццам вочы мне хто прамыў.
Паралельныя — гэта ж рэйкі,
Што ў жыцці пакацілі
[redacted] рэхам!
І не круг я малюю
на дошцы школьнай,
А сваіх заблуджэнняў кола...
Бачу ўсё, разумею...
Дарэмна
Я забыў пра сваю тэарэму,

Якую вы тлумачылі мне
неаднойчы —
Трэба людзям глядзець
прама ў вочы.
Усміхаецеся вы гэтак мякка і добра:
«Наступны ўрок у нас — алгебра».

* * *

Я вільготнай анучкай сціраю
Белыя аблокі са школьнай дошкі —
Праясняецца чорнае неба,
Зоркі трэба на ім запаліць.
Усміхаецеся вы гэтак мякка і добра:
«Ну, здабудзь
корань кубічны,
Скажам, з лічбы 1937».
Стаўлю птушку.
Крылом накрываю лічбу.
1937...
Гэта ж год майго нараджэння!
Разгубіўся зусім я —
не ведаю,
Як той корань з яе здабываць...
Усміхаецеся вы гэтак мякка і добра:
«Не хвалюйся, прыпомні, падумай...»
Так,
так,
так...
Я, здаецца, прыпомніў...
Корань мой — у палескай глебе,
Корань мой — у духмяным хлебе,
Корань мой — у бацькоўскай хаце,
Вечны корань мой — ў сэрцы маці...
Усміхаецеся вы гэтак мякка і добра:
«Корань зла
хай не будзе табе вядомы...»

## ЗДЗІЧЭЛЫ САД

Я кідаю балючы пагляд —
Сад здзічэлы, здзічэлы сад...
Дзе твае паясы ярка-белыя
І, як ядры, антонаўкі, бэры?
Ці ж не ўчора яшчэ, не ўчора
Гнуў у лук ты тугія падпоры?
Падаў яблык — дык быў жа выбух!
Сёння ж ты бы са строю выбыў...
Ў лісці стала менш аксаміту,—
Быццам шротам яно пабіта.
Заскарузлым голлем зарос,
Лёгкі ветрык цябе абтрос,
І не тыя плады твае ўжо —
Зараджай хоць ты імі ружжо...
Сад здзічэлы...
                    Глухі, таямнічы...
Без мяне ты вярнуўся да дзічак.

## ЗЕМЛЯКАМ

Не тым, хто ў страху
бег у край чужы
Ад гневу справядлівага,
расплаты,
Не тым, хто распісаўся на ілжы
І стаў народа ворагам
заклятым.
А вам, сумленным, шчырым
землякам,
Хто родны кут пакінуў
не па волі,
Хто з торбачкай паплыў
за акіян
У пошуках лягчэйшай долі;
Хто быў занесен
хвалямі вайны
У немаведама якія далі...
У вас ёсць ўнукі,
дочкі і сыны,
Вы ім пра край свой родны
расказалі?
Пра шум бароў,
пра водар медуніц,
Пра квецень веснавога саду,
Пра звон руччоў
і чысціню крыніц,
Пра залатыя іскры
лістапада.
Ці расказалі дзецям пра буслоў,
Ці матчыну спявалі калыханку,
Што сплецена з дзівосных
красак-слоў,

Смугой спавітых,
быццам луг уранку?
Вы раскажыце, раскажыце ім
Пра гоні, пушчы,
па якіх хадзілі,
І стане вам лягчэй
тады самім,
Агорне болем
смутак па Радзіме.



Сымон Блатун з аднакурсніцамі на бульбе, 1956



Родная бяроза, 1957

## МАСТАЧЦЫ, ПАДАРЫЎШАЙ НАЦЮРМОРТ

*Жане Ш.*

Нацюрморт — гэта мёртвае штосьці,
Як завучаны добра акорд.
Да мяне ж завітаў у госці
Не халодны — жывы нацюрморт.

Вось-вось захалодзіць мне губы
Залацісты, як воск, вінаград,
І кавун зазвініць, быццам бубен,
І пасыплецца яблычны град.

## «ТАТА»

Ён быў самым рослым у класе...
І мянушку далі яму «Тата».
Грозны выбух: «Вайна пачалася!»
Ён без позвы прыйшоў
да ваенкамата.

Па-мужчынску расправіў спіну
І ва ўзросце рашыў не прызнацца —
Два гады сабе смела накінуў,
Не міргнуўшы сказаў:
— Васемнаццаць.

Губы сцяў, не заплакаў, упарты,
Як праводзіла маці ўранні...
Ён падняўся з апошняе парты,—
Толькі ўпотай спазнаўшы каханне.

Збоку — фляга з вадою, сапёрка...
І гарачая сталь аўтамата —
Ім задачы рашаў на «пяцёркі»
Першагодак вайны —
вучань Тата.

Дыск пусты, у ствале ні патрона
І адзіная поруч граната...
Ты цяпер на апошнім уроку,
Ты ў адказе за ўсё зараз, Тата.

На зямлі будуць песні і радасць,
Як над ворагам прыйдзе расплата.
Не, жывым вы не возьмеце, гады!
І чаку вырывае Тата...

Ён быў самым рослым у класе,
Стаў ён рана дарослым салдатам.
У сяброў яго — дзеці...
А ён застаўся
Па мянушцы адной толькі Татам.

* * *

На маёй галаве
                    былі хвалі —
Маці стрыгла мяне
                         авечымі нажніцамі,
Халоднымі, як лёд.
Аднойчы да нас у хату
Начаваць папрасіўся салдат,
                                        татарын,
Ён ішоў праз вёску
У абмотках,
                запэцканых граззю,
З наздраватым аўтаматам на плячы.
Ён убачыў на галаве маёй хвалі...
Усміхнуўся у вус пакручасты
І з ранца брытву дастаў.
Па рамні ёй пагойсаў спрытна
І чамусьці крануў далонь.
Галаву мне
               цёплай пенай успеніў,
І салдацкая вострая брытва
                     зашоргала па маёй галаве...
А назаўтра пайшоў мой цырульнік,
                          добры дзядзька татарын,
У абмотках,
                запэцканых граззю,
З наздраватым аўтаматам на плячы.
Пэўна, трэба было яму
                      яшчэ многіх дзяцей пагаліць.

* * *

Абоймы шарыкавых ручак.
Турбуе моладзь прадаўца.
Мы ж пёры ніткамі прыкручвалі
Да абструганага дубца.

І на шпалеры мы пісалі,
І кляксай пстрыкала пяро...
Я свой алфавіт вывеў сажай
З карчоў смалістых —
дымных дроў.

Яго навек запомніў чотка —
Любая літара відна.
Пісала чорным,
толькі чорным
Пасля вайны яшчэ
вайна.

## БЯРОЗЫ

Чужых салдат сухія тапары
У іх ствалы ўпіваліся наўскоса,
Каб танкі чарапастыя прыкрыць
Купчастымі чупрынамі бярозак.

Рыпелі дрэвы, прыпадалі ніц,
Апошнія нацягваючы жылы,
І, голлі распластаўшы па бране,
Яны па-чалавечаму тужылі.

Калі ж у небе грозна загулі
Савецкіх бамбавозаў эскадрыллі,
Яны, здаецца, каб устаць маглі,
Разбегліся б і ворага адкрылі.

* * *

Ах, які водар печанай бульбы
На прастуджаным ветрам полі!
Ты пячонік люляеш, як булку,
Што пякуць для застолля.
З далоні на далонь —
Пячэ, як агонь!

Эх, і сопкая ж бульба ўрадзіла —
У рот просіцца нават без солі.
Клубні проста на дзіва, на дзіва —
Поле, поле,
                    шэрае поле...

Мне пра гэта напомніў булькат
У каструлі [illegible] варанай бульбай.
Як насыплеш з яе —
                                        ніколі
Не забудзеш поля,
                                    бульбянага поля...

* * *

Налёг на плечы дубу вецер,
Пакласці хоча дрэва ніц,
А ён адмахваецца веццем,
Лістамі меднымі звініць.

Непадуладны навальніцам,
Што многа раз над ім гулі,
Ён упадзе аднойчы ніцма,
За ўсё паклоніцца зямлі.

## ЗАЛАТЫ АКРАЙЧЫК

Хлеб,
дажджамі дбайна паліваны,
Сонечнай спазнаўшы цеплыні,
Боханам духмяным,
паліваным
Лёг на стол
на белены ручнік.
Пёкся ў печы
на гарачым подзе
На далонях
клёнавых лістоў.
Адчуваю ў ім
дубровы подых,
Чуецца мне шэпт жытоў.
Тых жытоў,
што коцяцца бязмежна,
Што не злягуць
У нядобры дзень...
Я акрайчык залаты адрэжу,
Прытуліўшы бохан да грудзей.
І маленства выплыве заранак,
І матулі ўспомніцца наказ,
Што акрайчык
нельга есці нанач,
Каб нідзе ніколі не блукаў.
Не, не заблуджуся,
вер мне, мама,
На пагорках бурнага жыцця,
Адшукаю сцежку,
выйду прама
На шырокі, як вясна,
прасцяг.

## МАНЕКЕНЫ

Яны стаяць заўсёды у абновах,
З усмешкай пазіраюць на людзей.
Увосень ім барвовы ліст кляновы
Прышпіляць прадаўшчыцы да грудзей.
Узімку падкладуць пад ногі ваты
І блёскат сыпануць. І будзе снег,
Ды толькі позірк іх халаднаваты
Іскрынкаю ніколі не блісне.
Калі ж вясна пачне імкліва брацца
І капяжамі выбіваць свой такт,
Зноў за вітрынай змена дэкарацый —
Аздобіць іх бярозкамі мастак.
Убранне іншае у іх улетку —
Адзенне падагнана пад фасон.
Ім намалююць на вітрынах кветкі —
Мастацтва іх таксама пад сезон.
Глядзіш за шкло: там змены, змены —
Не трэба ж, каб залежваўся тавар...
Ды толькі не мяняюць манекены
        Ніколі твар.

* * *

Я нясу за пазухай голуба
На квяцісты, як луг, стадыён,
Пасля першага звонкага гола
Аж з грудзей маіх выпырхне ён.

Каруселлю кружыцца ён стане
У чародцы сівых галубоў.
Потым ў небе, бы цукар, растане —
Панясе маю радасць з сабой.

Па грудзях шныраць вочкі-іголкі.
Не, не злодзей я, хоць бягу,—
Я нясу за пазухай голуба,
Камень там я насіць не магу.

* * *

Ой, чырвоная вярбіна,
Ходзяць пагалоскі,
Што дзяўчыну ты зрабіла
Танкаслёзкай.

Хай лепш вецці твае
плачуць
Па-над быстрай рэчкай...
Ад яе пайшоў юнача
Не навечна.

А ў дзяўчыны толькі ранак,
Чысцюткія росы...
Пачынаецца каханне
З цёплых слёзаў.

Ой, чырвоная вярбіна,
Ходзяць пагалоскі,
Што дзяўчыну ты зрабіла
Танкаслёзкай.

* * *

...І вечны бой —
З самім сабой...
За чысціню душы адвечнай,
За мудрасць,
вернасць
і сардэчнасць,
За веру,
праўду
і святло,
За дабрату
і за дабро...
Шкада, шкада,
што вечны бой
Паціху мы
вядзём з сабой.

* * *

Калі б мяне спыталі,—
Які лепшы верш я хацеў бы
напісаць,
Я адказаў бы:
— Пра сына.

Калі б мяне спыталі,—
Якую лепшую паэму
хацеў бы я напісаць,
Я адказаў бы:
— Пра маці...

## СЛОВА НА МАСКАРАДЗЕ

Я сёння ў зале навагодняй казкі...
У ззянні ёлка падпірае столь.
Снуюць, танцуюць і смяюцца маскі,
Я паштальён — мая такая роль.

Пішыце пісьмы, весела пішыце —
Па адрасу іх хутка перадам!
Смяшыце жартамі дзяўчат,
смяшыце!
— Дваццаты нумар! Гэта вам.
— І вам...

Я — паштальён. Расшукваць умею,
Адвечны страннік я і пешаход...
Шукае мітусліва Дульцынею
Пры залачонай шпазе Дон-Кіхот.

Вакол звяры, бы выпусцілі з клетак,—
Пад ручкі з ліскаю гуляе воўк...
«Дзе ж ты, мая жаданая Джульета?» —
Стаіць Рамэо, любай не знайшоў.

Што ж, не бяда, шукай яе, Рамэо!
Бач, плаццял мільгануў срабрысты шоўк...
Я паштальён — расшукваць я ўмею,
Анегін жа Таццяну ўжо знайшоў.

А хто спявае там няскладным хорам?
Пазнаў я іх па голасу здаля:
Салют вам паштальёнскі, мушкецёры!
Вядома, мушкецёры караля.

Глядзі — вось-вось успыхне
дзесьці «рубка» —
Звон вострых шпагаў, трапны іх укол...
Абняў за шыю белую галубку,
Танцуе барадаты з ёй казёл.

На феі арэол нябесны ззяе...
З жар-птушкі хтосьці выскубнуў пяро...
І ходзіць важна ў карагодзе заяц,
Нібыта ён тут сёння цар звяроў.

І Дзед Мароз упарыўся ўжо, мабыць,
Ды не растаў на ім бялюткі снег.
Снягурачку паблытаў хітры д'ябал —
Звініць яе крыштальны, чысты смех.

Эх, сыпся, смех, звіні, звіні, вяселле!
І за парог прагнаны ціхі сум.
Я — паштальён. У светлай каруселі
Надзеі вам і радасць я нясу.

Яны з сняжынак сплецены і красак,
Вам з імі жыць, кахаць і сябраваць,
Ды толькі у жыцці ніколі масак
Не трэба анідзе не адзяваць.

* * *

Маўчаць вянкі — завялая іх памяць,
І многа плітаў на маёй зямлі.
Зямля, зямля, нашто гранітам раняць
Тваё жывыя карані?

Табе спрадвек паклон прыносяць нізкі,
Ты прыцягненне маеш, як магніт...
І прараслі штыкамі абеліскі,
І з неба зоркі ўпалі на граніт.

## ДЗОТ

Зямлю вакол крамсалі сотні мін,
А ён свінцом ссякаў усё жывое,
Ды раптам змоўк, прыціснуты грудзьмі,
Бы анямеў ад смеласці героя.

Цяпер тут ціха. З мурагом густым
Паўзуць рамонкі на пагорак нізкі,
Бярозкі юнай дробныя лісты
Шапочуць над маўклівым абеліскам.

І толькі з дзота сырасцю дыхне
Ад сцен цвілых і ўжо ад часу бурых,
Да болю мне напомніць аб вайне,
Нібы прывід, сляпая амбразура —

Здаецца, бачу, як курыць трава,
І дзот зноў сее смерць на полі бою...
Яго даўно б пара ўжо узарваць,—
Шкада трывожыць толькі сон героя.

## ВЫШЫНЯ

Спыніўся я на вуліцы шумлівай:
На плечы бацька хлапчука падняў,
Заліўся той усмешкаю шчаслівай,
Глядзіце, моў, якая вышыня.

...Ён хутка сам на дрэва узбярэцца,
Свавольнае малое хлапчанё,
Як птушка ў клетцы, затрапеча сэрца,
Захопленае гордай вышынёй.

А калі першы раз убачыць горы,
З вяршынь аслепіць снегу чысціня,
Тады ў вачах яго заззяюць зоры,—
Дык вось яна якая, вышыня...

Дарослым, можа, сігане пілотам,
Разбудзіць у міжзор'і цішыню.
І з-за аблокаў, пэўна, з самалёта
Жаданую адчуе вышыню.

А покуль што на вуліцы шумлівай
На плечы бацька хлапчука падняў,
Няўцям малому ў гэты дзень шчаслівы,
Што ўперадзе жыццё ўсё — вышыня.

## АРЛЯНЁ

У гняздзе скалістым, роднай хаце,
Што ў гарах дружыла з вышынёй,
Засталося арлянё без маці,
Шчэ без моцных крылляў арлянё.

Можа, дзе падстрэлілі арліцу
Ці злавілі недзе ў заапарк,—
Арляняці ж нечым пакарміцца,
Голад мучыць суткі узапар.

І яно, ахрыпшы ўжо ад крыку
(Адчувала — ўперадзе бяда),
Перастала болей маці клікаць,
Вылезла нясмелае з гнязда.

І над самай кручаю застыла,
Вочы загарэліся агнём...
Арлянё паверыла ў крылы,
І яны паднялі арлянё.

## ПЕСНЯ СЕМНАЦЦАЦІГАДОВЫХ

Мы ўваходзім з табой у прадвесне,
Мы з маленства выходзім з табой.
І ў душы нараджаецца песня,
Нараджаецца ў сэрцы любоў.

Нам з табой семнаццаць,
Нам з табой смяяцца,
Танцаваць, весяліцца з табой.

Перад намі шляхі, а не сцежкі,
І мы пойдзем шчасліва па іх,
І жыцця залатое бязмежжа
Мы падзелім, як хлеб, на дваіх.

І юнацтва узнёслае мары
Праз усе пранясем мы гады.
Нашу зорку кахання — Стажары
Зберажэм назаўжды, назаўжды.

## З ПУЦЁЎКАЙ КАМСАМОЛА

Зноў кліча хлеб цалінны ураджаем,
Зноў у дарогу клічуць цягнікі.
І зноў з цалінпай песняй ад'язджаюць
Ў далёкі шлях дзяўчаты, юнакі.

На лета стэп ім стане блізкім домам,
Усіх сустрэне, як адну радню:
І тых, хто быў па працы ўжо знаёмы,
І тых, каго пазнае ўпершыню.

Яны прастор абудзяць шматгалоссем,—
За працай песням тут заўжды звінець...
Пшаніца ў рост паклоніцца калоссем,
Налітым сонцам і цяжкім, як медзь.

Тут, брат, адкінь папрокі ўсе на стому,
Працуючы да ночы ад відна,
Бо ведаў кожны шчэ тады ў райкоме,
Што не прагулка гэта — цаліна!

Здабудзе сілу тут нат самы кволы
З рыдлёўкаю на залатых таках...
Зноў кліча хлеб. З пуцёўкай камсамола
Зноў маладосць імкне ў далёкі шлях.

## ЗАРАНАЧКА

Выйшла летнім ранaчкам
Ясная заранaчка.
Ой, Галю, Галя,
Ясная заранaчка.
С залатымі косамі
Пайшла сцежкай роснаю.
Ой, Галю, Галя,
Ясная заранaчка.
Ля свежай крынічанькі
Набрала вадзічанькі,
Ой, Галю, Галя,
Ясная заранaчка.
Ходзіць кожным ранaчкам
Ясная заранaчка.
Ой, Галю, Галя,
Ясная заранaчка.
І зусім не знае,
Што яе кахаю.
Ох, ясная заранaчка...

* * *

Агонь жывы, агонь палае Вечны,
Нібы сцяжок, ля помніка трапеча...
То факел бессмяротнасці і славы,
То водбліск гераічных дзён,
Ён з Прагі, і з Берліна, і з Варшавы —
З усіх куткоў зямлі відзён.
На мармуры — пралескавы букецік,
Пакладзены дзіцячаю рукой...
Хай будзе шчасце, мір на свеце
І веснавы задумлівы спакой!

* * *

Ціхая, любімая затока
У праменнях свеціцца, як ртуць...
І далёка па вадзе, далёка
Мары тут дзявочыя плывуць.

Ветрык сціх, заснуўшы сном глыбокім,
Задрамалі вербы, сітнягі...
Ціхая, цудоўная затока —
Кут любімы, сэрцу дарагі.

## РАНІЦА НА ДНЯПРЫ

Каторы раз перамываюць хвалі
Да жаўцізны ачышчаны пясок.
Ад сну з праменнем першым
лозы ўсталі,
Халоднай умываюцца расой.

Рака яшчэ не скінула дрымоты,
Паглыбілася быццам у задум.
Накрыла сонца дзіўнай пазалотай
Зялёную дняпроўскую ваду.

Застылі лодкі плямамі на плёсах,
У чаканні ўлова кураць рыбакі.
І, пырскаючы пенаю бялёсай,
Зноў кацеры ўзаралі гладзь ракі.

Плывуць плыты, і песня плытагонаў
Нібы струна цягучая гудзе.
Прайшоў на Кіеў «Канстанцін Заслонаў»,
Гудком басістым прывітаўшы дзень.

І паплыло ў працоўным рытме ранне
У караванах баржаў, кацяроў...
Адчуеш ты магутнае дыханне,
Якім штодзень жыве сівы Дняпро.

## ДАРОГІ

З тае пары прайшло зусім нямнога,
Як першы раз зайшоў я у вагон,
І дрэвы развітальна на дарогу
Мне замахалі веццем наўздагон.

На стыках колы застунелі глуха,
З акна дыхнуў раз'юшаны скразняк
І смела трапяткую завіруху
У валасах расхрыстаных падняў.

Насустрач мне плылі лясы, аблогі,
Са свістам прабягалі цягнікі...
Я з першых вёрстаў палюбіў дарогі,
Глухія зненавідзеў тупікі.

У мітусні перонаў і вакзалаў
Я адчуваў імклівы пульс жыцця —
І зноў мяне дарога калыхала,
Як быццам маці гушкала дзіця.

Не ў крыўдзе я на жорсткія вагоны,
Пракураныя дымам папярос,—
У іх праехаў сотні перагонаў
І ў іх на год, напэўна, я падрос.

Шляхоў ляжыць наперадзе шчэ многа
(Пралягуць хутка трасы і да зор).
Дык קліч удаль мяне заўжды, дарога,
Мігай зялёным вокам, семафор!

* *

Полымя па дрэвах разлілося,
На вятры шугаюць іскры-лісці.
Над палямі ўдумлівая восень
З жураўмі ў вырай мкне кудысьці.
Абпляліся павуціннем белым
Пажаўцелыя кусты акацый,—
І здаецца, лета пасівела
Ад бясконцых клопатаў, ад працы.

* * *

Пагоркі, як пуховыя падушкі,
Ляжаць на сонцы ў яркай белізне...
У лесе зрэдку снежны пыл цярушыць —
Вавёрка сіганула па сасне.

І лес, і поле клічуць нас у госці,—
Тут будзем піць мы водарны настой
І захапляцца дзіўнай прыгажосцю,
Што дорыць сэрцу радасць і настрой.

## КАХАННЕ

Да іншых яно завіталася рана,
Валодала думкамі, сном,
А я яго доўга шукаў у раманах,
На белым экране кіно.

Не бачыў тады, як пад вечар ля хаты
Хадзілі сяброўкі штодзень,
Не горшыя нат, чым у кнігах, дзяўчаты,
А ўсё ж я над кнігай сядзеў.

Дзяўчат не страчаў я усмешкай лагоднай,
Пры іх чамусь больш чырванеў,
Не раз чуў папрокі ў свой адрас: халодны...
Хоць шмат і цяпла ў сэрцы меў.

А сёння пры стрэчы з табой хваляванне
Душу мне шчакоча цяплом:
Як госць, што спазніўся, нарэшце каханне
Зусім не з раманаў прыйшло.

Прыйшло і трывожыць парою начамі,
Як смелы і новы пачын.
Хачу гэты скарб, здабыты з гадамі,
Да скроняў сівых зберагчы.

## ВЕСНАВАЯ ЛЕКЦЫЯ

На дварэ ківаюць ліпы веццем,
Быццам клічуць выглянуць з акна,
Уздыхнуў не ў жарт студэнт на лекцыі
І сказаў задумліва: «Вясна-а!»

І такая ў слове была радасць,
Што цяплом кранула ўсіх яна.
Нават лектар перарваў тыраду —
Паспяшыў пацвердзіць: «Так, вясна».

Ручкі ўбок — парушана маўчанне,
Нібы ветру наляцеў парыў.
І сівы прафесар пра каханне
Раптам з пачуццём загаварыў.

Аб сваёй прыпомніў маладосці
І аб самай памятнай вясне...
На ягоных скронях, мне здалося,
Пацямнеў тады бліскучы снег.

Пра любоў у захапленні лектар
Гаварыў, а сам — бы маладзеў...
І шкада, што з нас ніхто ў канспекты
Гэты вось не запісаў раздзел.

## АБ ЗОЛАЦЕ

Тады ўжо ў парку расквітнеўся бэз,
Тапалі гаманілі маладыя.
Я ўпершыню ў жыцці сустрэў цябе,
Твае заўважыў косы... залатыя.

А калі дзень пад вечар пацямнеў,
Тапалі змоўклі разам, і над імі
Заззялі ліхтары, дык на мяне
Глядзела ты вачыма... залатымі.

То быў падман... А як пазнаў глыбей
Твой густ жыццёвы — і душа астыла.
Я зразумеў, што золата ў цябе,
Галоўнае, для сэрца не хапіла.



Сябры (справа налева): Сымон Блатун, Іван Бурсаў, Рыгор Барадулін, 1963

## У ПАХОДЗЕ

Гарністы, помню, клікалі ў дарогу...
Пот гімнасцёрку клеіў да спіны,
А я ішоў, хаця прасілі ногі:
«Прысядзь хоць на хвіліну, адпачні».

Хацелася ад стомы скінуць боты,
Ступіць на росы босаю нагой,
Ды толькі ногі я запэўніў: потым
Мы адпачнем, як скончыцца паход.

Дамоў вярнуўся.
У полі за работай
Ізноў бягуць напружаныя дні.
І тут я ногі суцяшаю — потым,
Калі яны заныюць: «Адпачні».

# СПАДАРОЖНІЦА

Заснула ты: закалыхаў вагон,
Схіліла галаву на столік.
Баюся я твой патрывожыць сон,—
Ні з кім не размаўляю болей.

Гляджу ў акно, а там бяжыць зіма
Ды звоніць правадамі вецер.
...Табе ж, напэўна, сніцца цёплы май
І яблыні ў бялюткім цвеце.

Ці мо ідзеш сярод квяцістых траў,
Дзе срэбрам адліваюць росы.
Букет хтось кветак для цябе сабраў
І зверху кінуў, закрануўшы косы...

Грукочуць колы. Станцыі, агні,
А потым зноў лясы, палеткі.
Эх, каб магла ты і мяне прысніць,—
Дазналася б, чые то кветкі.

## РАЗМОВА З СЭРЦАМ

Не будзем успаміны варушыць,
Яшчэ іх памяць не паспела сцерці.
Давай з табою у начной цішы
Спакойна пагаворым, сэрца.

З табой нам доўга жыць і працаваць,
Не раз дзяліцца радасцю і болем...
Не знаю сам, чаму так адчуваць
Цябе пачаў цяпер я, як ніколі.

Ты часам быццам бы зусім замрэш,
Затым занепакоішся трывожна.
Няўжо цяпер я толькі захварэў
Хваробай той, што з нас хварэе кожны.

Бо толькі ўбачу, стрэнецца яна,
Адразу ж нас з табой нібы разбудзіць,
І ты хутчэй мне падаеш сігнал:
Мацней звычайнага застукаеш у грудзі.

Давай з табою набярэм разгон
Ад дзён імклівых нашай маладосці:
Хай толькі вецер свішча наўздагон,
Хай толькі час нам шпалы гадоў мосціць!

## ВЯРТАЮЦЦА З ВЫРАЮ ГУСІ

Вяртаюцца з выраю гусі
На крыллях шырокіх, тугіх
Да роднай сваёй Беларусі,
Да тоняў, азёр дарагіх.

Што вас прымушае, скажыце,
Ад цёплага краю ляцець.
Маглі б вы і там, пэўна, жыці,
Выводзіць чародкі дзяцей?

— Ой, нельга,— адказваюць гусі,—
Бо сэрцы ж засталіся тут...
Таму зноў увосень у скрусе
Пакінем наседжаны кут.

І зноў прыляцім напрадвесні
У чыстыя плёсы нырнуць.
Сваёю няхітраю песняй
Абудзім мы з неба вясну.

## ВЯСНЫ ХАРАКТАР

У поле выйдзі — парацца узгоркі
Ад веснавога мяккага цяпла...
Як гаспадыня рупная, уборку
Вясна ў прыродзе смела пачала.

Бяліць абрусы счэзлыя сабрала,
Каб замяніць іх зыркім дываном,
На вербы панавешала караляў —
Бліскучым надарыла серабром.

Працерла неба мяккай ватай хмараў,
Сыпнула сінькі ў чорныя віры
І з клопатам аб закаханых парах
Пайшла расціць пралескі у бары.

А тут наспела і за фарбы брацца
І падсушыць шырокія палі...
Як многа у вясны клапот і працы,
Каб даць жыццё абуджанай зямлі.

## ШКОЛЬНАЙ СЯБРОЎЦЫ

Ты памятаеш, не хацеў упарта
Сядзець з табой я за адною партай,
Бо сябрукі смяяліся з мяне:
«З дзяўчынкай сеў, глядзі, адзеўчанеў...»

Тым горш яшчэ, пад кпіны і смяшок,
Мяне дражнілі «Нэлін жанішок».
І ты ўсё чула і была той Нэляй...
Тады ўдваіх мы разам чырванелі,
Хацелася пусціцца науцёкі,
Забыўшыся пра школу і урокі...

Дзяцінства наша з ліўнем адшумела,
І ты і я другімі сталі, Нэля,
Але аднекуль з глыбіні душы
Каханне першае ўсё просіць «напішы».
Мо з-за яго я не хацеў упарта
Сядзець з табою за адною партай.

* * *

Добры дзень,
мой загадкавы продак,
Што тугою сцяблінай прарос.
Я таксама, як ты, самародак —
Не зваліўся загадкай нябёс.

Мы — зямныя, ускормлены хлебам,
Што сцяблінай аднойчы прарос.
Нас паіла калматае неба —
Я зваліўся загадкай нябёс.

* * *

Я люблю, як бяжыць снегавая вада
Па разорах усіх, каляінах,
І гатоў нават песню складаць
Залатым веснавым ручаінам.

Я люблю,
Як рака ў хвалях грозных бурліць
І грукоча аб скалы ў страмнінах,
Як ад чыстых струменяў зямлі
У калодзежы поўны дзядзінец.

Я крыніц ключавых булькаценне люблю,
У імклівасці іх — сілу бачу...
Мо таму яшчэ больш не цярплю
Я балотнай вады, стаячай.

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Лес шумеў навокал цёмны, строгі,
Плакаў вецер голасам ваўка.
У глушы, далёка ад дарогі,
Горбілася хата лесніка.

Са двара карову летнім ранкам
Выганяў не раз малы пастух,
Абуджаў жалейкаю палянкі
Кемлівы, уважлівы Кастусь.

Бачыў ён, як першыя праменні
Прыбіралі вершаліны дрэў
Слухаў ён, як ручаёк струменіць,
Захапляў яго птушыны спеў.

І тады ён з торбачкі аловак
З хваляваннем моцным даставаў.
Вырасталі на паперы словы,—
Хлопчык вершы першыя пісаў.

Як на крылах, у дрымучым лесе
Праплылі дзіцячыя гады.
І па вёсцы ў глыбіні Палесся
Ён праходзіў дужы, малады.

Лёс народны тут яго трывожыў
І заўсёды ў думках светлых быў,
Не стаяў паэт на раздарожжы,
А пайшоў дарогай барацьбы.

І цяпер, калі нагнецца колас
І ўсміхнецца сонцам ясны дзень,
Мне здаецца, неўміручы Колас
Беларуссю роднаю ідзе.

## СТУДЭНЦКАЯ ВЯЧЭРА

Стыпендыя заўтра, а сёння яшчэ раз
Сабралі з кішэняў рублёўкі.
І вось на стале ўжо дыміцца вячэра,
І ўсе уздыхаюць з палёгкай.

Святлейшым здаецца пакой інтэрнацкі.
Бярэмся ўсім гуртам за лыжкі,
Бо суп па-сапраўднаму звараны хвацка,
Хоць мо й перасолены крышку.

Ды толькі аб гэтым ніхто ні паўслова —
Сышліся ў адзін усіх густы,
Не вяжацца нат са сталом і размова,
Пакуль у каструлі не пуста.

А скончылі есці — знайшліся і словы,
Пакой напаўняецца гудам.
Ды раптам пытаецца староста строгі:
— А хто ж будзе мыць нам пасуду?

І каб не было крыўднавата нікому,
Цягні жарабкі з цёмнай шапкі,
А выцягнуў «мыць» — адпраўляйся,
вядома,
Хоць хлопцы смяюцца: «Вось цапнуў!»

Гады прамільгнуць... І мо ў новай кватэры,
Як нейкае дзіўнае цуда,
З нас кожны прыпомніць вось гэту вячэру...
«А хто ж будзе мыць нам пасуду?»

## НА КЛАДЦЫ

Звісла ноч над голлямі акацый,
Вецер не шалохнецца. Спакой.
Мы з табой спыніліся на кладцы
Над бліскучай, нібы ртуць, ракой.

Пад нагамі гойдаліся дошкі,
Як жывая, плёскала вада.
— Не баішся?
Адказала: — Трошкі...
— Калі трошкі, значыць, не бяда.

І чамусьці неяк нечакана
Я абняў цябе, пацалаваў.
На душы вясёлы звонкі ранак,
Як гармонік, зычна заіграў.

Мо хвіліну нейкую маўчалі,
Потым ты спытала: — Што, калі б...
Незнарок мы ў рэчку з кладкі ўпалі?
Кінуў жартам: — Разам паплылі б?

## ХАЛАСЦЯК

Ён цвердзіць зноў у чадзе п'янаватым,
Пускаючы махорачны туман,
Што толькі ёсць харошыя дзяўчаты,
А добрых жонак, моў, зусім няма.

Жыццё сямейнае, уцяміў, гэта — сварка:
Жанчына мкне, каб муж рахманы быў,
Каб ты нідзе не выпіў лішняй чаркі
І без яе ні кроку не зрабіў.

Каб у кішэні меў заўсёды грошы
І каб расход сама яна вяла,
Тады і жонка робіцца харошай,
Не будзе ж так — не жонка, а піла.

Другая справа, мець дзе збоку «кралю»:
Гарэлка тут, закуска, пачуццё...
А я скажу:
сваёй гнілой мараллю
Ён проста хоча апляваць жыццё.

* * *

Не бывае сонечнага дажджу,
Пот салёны бывае...
Па палескай зямлі я хаджу.
З нетраў
слова сваё здабываю.

Чым глыбей —
тым слова глыбей,
Чым цяжэй —
тым слова мажней.
Толькі праца мая
мала спорыцца —
Я зайздрошчу ўсё ж
салігорцам.

* * *

Не смяяцца трэба, не смяяцца
З залатых маіх акон...
Я стаю з усмешкаю паяца,
І з усіх бакоў я вам відзён.

Па-сялянску ціхі, недарэчны,
Гарцам поўным мераю жыццё.
На мяжы стаю,
дзе дрэмле вечнасць
І ляжыць забытым забыццё.

## ВІШНЁВАЯ ЗАМЕЦЬ

Зноў успамінам устрывожыў памяць,
На крылах песня даўняя ляціць...
Шугае май, і з вішань сыпле замець —
Рой беласнежна-чыстай канфеці.

Настоем хмельным поіць, поіць квецень
Мацней за шматгадовае віно,
І мы з табой шчаслівыя, як дзеці,
Ідзём ўдваіх у месячную ноч.

Вішняк, сцяжынка... За гароды выйшлі,
У казачна-нямую цішыню,
Чакай, чупрыну беласнежнай вішні
Ад радасці я моцна страсяну.

Ляцяць пялёсткі ў прахалодзе роснай,
І нас з табой як снегам замяло...
— Я індыянка,— кажаш ты, пялёстак
Прыклеіўшы гарэзліва на лоб.

З тае пары не раз гулі завеі
І дрэвы буйнай квеценню цвілі.
Іду па ўзмежку сёння. Іржавеюць
Пялёсткі з вішань на сырой зямлі.

Ды хваляй цёплаю пульсуе памяць,
На крылах песня даўняя ляціць...
І адчуваю я: на сэрцы замець —
Рой беласнежна-чыстай канфеці.

# КАБ АЖ ГАЙ ШУМЕЎ...

У дзяцінстве, помню, я
за грыву
На кані трымаўся і ляцеў,
Ды скакаць хацелася імклівей,—
Каб аж гай шумеў...
Ці [redacted] гары праносіўся на лыжах
Па лыжні, пракладзенай між дрэў,
Чуў, як вецер за спіною дыша:
Каб аж гай шумеў...
А калі у веліч паднябесся
Я, як заварожаны, глядзеў,
Дык хацеў такую скласці песню,
Каб аж гай шумеў...
Не ўрадзіла песняй мая ніва,
Яе ў час дагледзець не сумеў...
Ды ўсё роўна я ў жыцці шчаслівы,
Бо ў душы гучыць напеў гуллівы —
Каб аж гай шумеў!

* * *

Мы зямнымі справамі заняты —
На палетку спелым, ля станка...
І сардэлек рваных стратастаты
К нам плывуць не з кубкам малака.

Гонар быў і будзе нам зарукай,
Нашы дні не тлеюць, а гарацъ...
Над бядой сяброў не ўмеем рукі
Здрадліва, пацiху пацiрацъ.

Не магу пацешыцъ тэмай новай —
Думкі ў голаў лезуць, як чмялі:
Прыцягнення не згублю зямнога,
Упаду — дык ніцма да зямлі...

* * *

Чуў не раз я ад сталых людзей
Словы шчымлівага шкадавання:
«О, каб да мяне вярнулася маладосць,
Я жыў бы зусім па-іншаму...»

Я таксама б па-іншаму жыў,
Каб вярнулася да мяне юнацтва...
Не баяўся б падысці да дзяўчыны,
Якую прысвоіла сэрца,
Каб запрасіць на няўклюдны вальс.
Не пабаяўся б потым пайсці з ёю
ў светлую ўсмешку ночы
І апячы губы пацалункам...

З тымі гадамі
ды з сённяшнім розумам
Не быў бы я летуценнікам,
Не рабіў бы многіх памылак:
Адхіліў бы лішнюю чарку
ў сяброўскім гурце,
Не лез бы ў гарачыя спрэчкі,
а то і бойкі,
Грыз бы, як бабёр, навуку,
Аддаючы перавагу рыторыцы,
Выступаў бы красамоўна
на студэнцкіх сходах
І браў бы за прыступкай прыступку,
Што вялі да трыбуны на сцэне.
Шлях таксама нялёгкі...

Магчыма, не так бы пісаў я і вершы:
Па беламу пісаў бы белым,

Выказваў бы правільныя думкі
І выбіваўся б у модныя паэты...
Калі б я гэта рабіў тады,
Дык сёння пэўна б не шкадаваў
гэтак шчымліва:
О, каб да мяне
вярнулася юнацтва...

* * *

Мае вянкі сплылі па крутаверці,
З буруннаю вадой сплылі.
Русалкі таямнічыя іх дзесьці
У косы свае пышныя ўплялі.

Русалак многа, яны рознай масці,
А я сваёй ніяк вось не знайду...
Вянок кідаў Купаллем я на шчасце,
Ды незнарок наклікаў злыбяду.

## АРСЕНАЛЫ

О пражэрлівыя раты арсеналаў!
Яны ўсё ядуць і нічым не грэбуюць —
Хлеба горы, малочныя рэкі...
І раты разяўляюць на чалавека.

О якія страшэнныя арсеналы,
Што між дрэў, пад зямлёй хаваюцца!
Загырчаць могуць зверам найлютым,
Кінуць выклік зямлі і небу.
Людзі!
І што ж вы так пільна ахоўваеце?!

* * *

Трывожныя словы: «Спісаўся паэт...»
Гучаць яны немым дакорам...
А ты раскладзі усе карты як след:
На Сёння, на Заўтра, на Ўчора.

Учора — яго найвышэйшы паверх,
Ён дыхае вогненнай лавай.
І славы не хоча распалены верш —
Не трэба дзяшовая слава!

А Сёння... Яго патухае агонь,
Бо вугалю мала ў алоўку...
Паэт не спісаўся, спісалі яго,
Каб Заўтра адкрыць яго зноўку.

## ЮЛІУСУ ФУЧЫКУ

Людзі, я любіў вас,
будзьце пільнымі...

*Ю. Фучык*

Іржой пакрытыя цяжкія краты,
Турэмны холад накрывае грудзі,
А ён пісаў, забыўшыся пра катаў:
«Я любіў вас, людзі...»

Не задрыжэла сэрца камуніста
У міг апошні (болей жыць не будзеш!),
Пагляд адкрыты страпянуў фашыстаў —
«Я любіў вас, людзі...».

Ды толькі каты слоў не расстралялі,
Яны звіняць у шматмільённым гудзе,
Адлітыя з крыві — пярвейшай сталі:
«Я люблю вас, людзі!»

## ТРУБАЧЫ

У іх усё распісана па нотах.
Да губ прыклалі муштукі медзяныя,
Набралі ў грудзі стылага паветра,
Надзьмулі шчокі, быццам бы ад злосці,—
І трубы грымнулі па ўзмаху дырыжора,
І дзынкнулі літаўры звычна...
А што зайграць — ім усё роўна,
Ці бравы марш, ці рэквіем глухі.

## ЗАМЕЖНАМУ ТУРЫСТУ

Калі ты з чыстым сэрцам з-за мора
Завітаў у мой сонечны Мінск,
Я гатоў паказаць табе горад
І з яго пазнаёміць людзьмі.

Ім, як пчолы, руплівым, старанным,
Здзейсніць подзвіг любы па плячы.
...Над сталіцай займаецца ранак,
«Мінскі вальс» задуменна гучыць.

Пра зялёныя паркі, алеі,
Дзе мядовыя ліпы цвітуць...
Тут ад водару проста хмялееш,
І становішся лірыкам тут.

Бачыш, кранаў у небе багата —
За паверхам кладзецца паверх.
Іншы з вашых бубніць:
«Прапаганда...»
Прапаганда!
Такая — не грэх.

Пра зубра беларускага чуў ты!..
Ён жыхар нашай пушчы старой.
Паказаць бор сасновы хачу я —
Тут не злічыш сталёвых зуброў.

Я гатоў расказаць табе многа —
Ты запомніш не ўсё на хаду.
І на плошчу імя Перамогі
Я, вядома, цябе прывяду.

Тут агонь калыхаецца Вечны,
Спяць спакойна Радзімы сыны...
Зруйнаваны навек і знявечан
Быў мой горад жалезам вайны.

Госць замежны, ты гэта запомні,
У блакнот запішы і здымі:
Мы героям паставілі помнік,
Помнік працы натхнёнай —
наш Мінск.

## КРЫТЫЧНАЯ МАСА

Два грозныя паўшар'і,—
Вы не сыходзьцеся
Ніколі
          ў шар адзін!

Страшэнны
                    вам мерыдыян маленькі:
Ён можа пераблытаць
                                        паралелі
Зямлі
І вось яе,
                як чарацінку,
Зламаць...
Два грозныя паўшар'і,—
Не сыходзьцеся!

## АЎТОГРАФЫ НА КАМЕНІ

*Героям Брэсцкай крэпасці*
*прысвячаецца*

Пашчапаны сцены воспаю свінцовай,
А раты байніцаў сталі са шчарбінамі:
Тут вайна пісала на жалезнай мове —
Кулямі, снарадамі і мінамі.

І сціскалі лапы крэпасць мёртвай хваткай,
І глушыла неба грознымі абваламі...
Чую, развважаюць: — Вось была дзе
кладка,
Як жалеза, моцная, трывалая.

Балагураць двое пра абпал цаглінаў,
Пра раствор хітрушчы, што рабілі
прадзеды:
Не расшчэпіць цэглу ні снарад, ні міна,
І нішто не зможа рады даць.

Толькі не, не цэгла вытрымала шквалы —
Баранілі людзі кожны подступ сэрцамі,
Паміралі ў ранах з думкай не аб славе —
Са святою думкай, што свабода вернецца.

Бачу — вось ён, воін, у бінтах барвовых
На сцяне кінжалам выскрабае літары:
«За Радзіму паміра...» — і словы
Тут крывёй залітыя.

Моўчкі я праходжу па сырых фарпостах,
Кожная рэліквія для мяне святая...

Раптам прыпыніўся з сэрцам гнеўным,
злосным,
Іншае на сценах я чытаю:
«Мы былі ў крэпасці Вова, Муся, Жора»,
А далей і дата —
год... шэсцьдзесят пяты.

Я хацеў бы крыкнуць
вовам, мусям, жорам:
Гэй, хутчэй сатрыце вы свае каракулі,
Тут жа кроў пяклася
і дыміўся порах,
Не адна матуля тут па сыне плакала!

Нам заўжды свабода каштавала дарага,
За яе мы ў бітвы грозныя хадзілі...
Дык няхай жа ззяюць золатам аўтографы
Партыі, народу і Радзіме.

* * *

У паэтаў мала навізны —
У паэтаў болей сівізны.
Мала слоў трывалых у паэтаў,
Бо ўсе словы імі перапеты.
Ды бывае і ў мяне абнова,
Як знайду я,
адшукаю слова.

* * *

Галава, як ссівелы палын,
Што гаркава расце на ўзбярэжжы...
Ты мне памяць, палын, пакінь —
Як нажом, мяне памяць рэжа.

Бо хачу я падслухаць біццё
Чалавечага мудрага сэрца...
З палыном мы ідзём ў небыццё,
З палыном пачынаем бяссмерце.

# ПРАВЕРКА ПАВЕТРАНАЕ ТРЫВОГІ

Зноў надрыўна выюць сірэны...
Трывога!
Трывога!
Трывога!
Напінаюцца нервы,
ныюць старыя раны,
Твары людзей
робяцца строгімі.

Равуць сірэны, трывогу сеюць —
Яна ледавіком
спаўзае ў душы...
Зараз сотні, тысячы Адысеяў
Воскам гатовы
замазаць вушы.

Звіняць бамбасховішчы рэхам —
Трывога!
Трывога!
Трывога!
Карычневыя стрэлы,
як вехі,
Паказваюць пад зямлю дарогу...

Чуйна галовамі круцяць радары —
Небяспечнага ў небе
няма нічога...
Спакой захоўваць
прасілі па радыё,
Ды ўсё роўна па сэрцах
прайшла трывога.



На паэтычным семінары (справа налева):
Сымон Блатун, Генадзь Бураўкін,
Яўген Крупенька, Уладзімір Паўлаў,
Віктар Ракаў, Раман Тармола,
Хведар Майсейшын, 1959



Аднакурснікі каля студэнцкага інтэрната
па вуліцы Бабруйскай
(злева направа): Сымон Блатун,
Эма Луканская, Васіль Тузін,
Уладзімір Чэпікаў, 1957

* * *

Я хмурым небам не жыву —
Люблю я змалку сіняву.
Ах сінява ты, сінява!
Аж кругам ходзіць галава...
На словы мяккія
я ўсё ж скупы —
На сціРту ноччу падаю снапы.

* * *

Пра вечар можна многа гаварыць,
Калі ёсць красамоўства дар.
А у мяне ў душы адно гарыць —
«Аптэка, вуліца, ліхтар...»

* * *

Як забытай цытатай з карана,
Гавару я на вечы людзей:
Зажываюць балючыя раны
І вяртаецца шчасце надзей.

Спадзявацца не трэба на ўдачу,
Як рыбак на спакуслівы клёў...
Сваім ростам
задаў мне задачу
На двары мной пасаджаны клён.

* * *

Злосць мяне на кагось разабрала —
І азмрочаны сонечны дзень...
Людзі, людзі,
Падымем забралы,
Каб у вочы пільней паглядзець.

# Я ПАКЛІЧУ СЯБРОЎ

Я паклічу сяброў на абед гасцінны,
Я паклічу сяброў на святочны пірог,
На вяселле, на дзень імянінаў
Я паклічу сяброў.

Я паклічу сяброў, раскажу пра задумы,
Праваджу, як заўжды, за парог.
Калі ж будзе мне цяжка і сумна,
Я прыйду да сяброў.

* * *

Жывой паэзіі вада ёсць —
Бывае мелкай і глыбокай.
Сябры ўжо ў рэчышчы ўпадаюць,
А я застаўся ля вытока...

## ПЕРШЫМ КАСМАНАЎТАМ

З сабой зямнога ўзяўшы кіслароду,
Вады сцюдзёнай і зямнога хлеба,
Вы, пасланцы шукальніка-народа,
Аднойчы шлях адчыніце на неба.

Як рыцары, у панцырах, шаломах
На Марс ці Месяц сойдзеце па трапу.
І з радасці па звычаю зямному
Абдымецеся моцна і нязграбна.

І вочы ўзняўшы ў нябесны морак,
Заўважыць з вас, адчуе кожны,
Што больш за ўсё сярод шматлікіх зорак
За вас Зямля дрыжыць трывожна.

# БАЛАДА ПРА СЕЛЬКОРА

Нядаўна ў вёсцы Навасёлкі
забіты селькор Рыгор Жлобіч.

*З газеты «Звязда» за 1925 год*

Кнот у лямпе марна цягне газу,
Папяровы абажур на шкле.
І юнак таропка піша сказы
Пра схаваны кулакамі хлеб...

А з-за плота, дзе галінка бэзу
Пышна распусцілася ў бакі,
У акно нацэлен ствол абрэза —
Смерць рыхтуюць хлопцу кулакі.

Грымнуў стрэл, і куля апаліла
Трапяткое сэрца юнака
У той міг якраз, калі к чарнілу
З ручкай пацягнулася рука.

І застыла, сціснутая грозна.
А шчака прыпала да пісьма,—
Быццам хлопец засядзеўся позна
І над сшыткам проста задрамаў...

А яго апошняя заметка,
Што была падпісана крывёй,
Буйным шрыфтам глянула з газеты,
Заклікала з ворагам на бой.

# ДА ЛЕНІНА

## ДА ЛЕНІНА

Пропуск на пропуск —
быццам шашлык
На штыку
трохлінейнай.
Двое прайшлі, трое прайшлі
да Леніна.
Трымае паперу
сівенькі дзядок
Ў руцэ з распухшымі венамі.
Пешшу прыйшоў ён, старэчы хадок,
да Леніна.
Зямлісты шынель...
Акопны салдат
Дзіцем разгублен, ў здзіўленні.
Прывёў яго з фронту
салдацкі мандат
да Леніна.
Пропуск на пропуск —
быццам шашлык
На штыку
трохлінейнай.
Сотні прайшлі, мільёны прайшлі
да Леніна.
Так і цячэ той бясконцы
паток —
Узросты усе, пакаленні
За Праўдай,
Сумленнем
і Чыстатой —
да Леніна!

## ХАДОК

Расказ 90-гадовага браслаўскага рыбака
С. І. Ваяводы, хадака да У. І. Леніна

З ім давялося стрэцца мне
Спякотным летнім часам.
Сядзеў дзядуля у чаўне,
І паплаўкі ён пасвіў.

Ані маршчынкі на вадзе —
Плыла навокал ціша...
Сядзеў такі кудзельны дзед,
Што словам не апішаш.

А барада, от барада!
Такую ўраз прыкмеціш:
Яе бялілі дождж, вада,
Мяцеліца і вецер.

У снезе белым галава,
І шчырасць людзям зычыць
Вачэй старэчых сінява —
Яе ў азёр пазычыў.

У маршчаках адкрыты твар
На сонцы загарае...
Дай гусліў рукі — і гусляр
Быліну вам зайграе.

Рыбак стары ў настроі быў —
Не размарылі промні.
Ён расказаў мне проста быль,
А я яе запомніў:

«Рыбачыў здаўна ўвесь наш род,
Быў дужы, як належыць,
Ніхто з браслаўскіх Ваявод
Не быў ніколі лежнем.

І хватка ў кожнага была,—
Не быў і човен зыбкі.
Ды не туды заўжды плыла
З вачковых сетак рыбка.

І бедавала ўся сям'я,
Цярпела вечна муку...
Спазнаў таму так рана я
Рыбацкую навуку.

Шмат давялося перажыць —
Быў двойчы навабранцам.
Гады са тры я праслужыў,
Як ваяваў з германцам.

Тут пад хрыпотнае «ура»
Муштрою нас вучылі,
Каб гіблі ўсе мы за цара,
За веру, за айчыну.

Ды надышла усё ж пара
Сапраўднага разгону:
Навечна скінулі цара
З наседжанага трону.

Напэўна, быць канцу вайне,—
Мы радасна ўздыхнулі.
Ды не відно канца, ой не! —
Керэнскі гнаў пад кулі.

У роту трапіў, дзе гнядых
Салдаты даглядалі,
Каб коні ў бойцы ва ўвесь дых
На кулямёт скакалі.

...І раптам вестка — кожны рад,
Усе кудысьці рвуцца:
Часовы скінуты урад
Народнай рэвалюцыяй!

Нас павялі бальшавікі —
Іх праўду слоў пачулі.
Супроць буржуяў мы штыкі
Адразу павярнулі.

А надыходзіла зіма,
Скубаў мароз нас люта:
Адзення добрага няма,
Паехаў і абутак.

Усхвалявана грамада,—
Сышліся раду радзіць,
Шчэ з тых арэшкаў інтэндант
Арудуе на складзе.

Тады я хлопцам і кажу:
— Чакаць, браткі, нам годзе.
Не першы год я ўжо служу...
Да Леніна мы пойдзем.

Раскажа хай наш дэлегат,
З якой прыйшоў нагоды.
Тут галасы: — Ідзі ты, брат,
Ідзі, брат Ваявода!

Ісці за трыдзевяць зямель
Нялёгка, знаю сам я.
А паглядзелі б на шынель —
Сабакі пакусалі.

І левы бот разявіў рот —
Раз'ехаліся боты!
Дык я зрабіў такі вось ход —
Скруціў іх ржавым дротам.

Мандат мне выпісалі ўраз,
Зацвердзілі пячаткай.
І хлопцы мне даюць наказ —
Пастой, моў, за салдата.

Напарнік мой, хлапец-туляк,
Таксама вельмі рады...
Было ў дарозе так і сяк,
З дрывамі поезд-таварняк
Давёз да Петраграда.

Зайшлі у Смольны. Во краса!
Застылі у дзіўленні...
Дзяжурны ў кнігу запісаў:
— У шэсць вас прыме Ленін.

Адчуў я сэрца моцны стук.
Няўжо ўсё гэта казка?
А Ён працягвае мне стул:
— Сядайце, калі ласка.

Прыселі. Не знаходжу слоў.
Сяджу, бы вінаваты.
— Што ў Петраград вас прывяло,
Таварышы салдаты?

Спытаў Ільіч так проста нас,
Так шчыра і спакойна,
Што спуд у нас прайшоў ураз,
Нібы зняло рукою.

Кажу — адзення не даюць,
Мароз жа дужа крача...
Зірнуў на вопратку маю,
Сказаў: — Я гэта бачу.

Ільіч пытацца ў нас пачаў —
Усё ён ведаць мусіў:
Адкуль ды што? — мяне спытаў.
— З Браслаўля, з Беларусі...

— Які ў салдат цяпер настрой?
Кажу я так пра гэта,

Што як адзін стаяць гарой
За новы лад Саветаў.

Кажу я Леніну яшчэ:
— Мы ўзнялі сцяг чырвоны...
Іскрынкі ленінскіх вачэй
Я помню і сягоння.

Ён гаварыў пра хлеб і мір
Нам шчырай, простай мовай.
А мы лавілі кожны міг
І праўды чыстай слова.

Тады адчуў я сэрцам сам
Яго святую веру...
Ільіч штось хутка напісаў
І выдаў нам паперу.

Яго мы слухалі наказ:
— Скажыце ўсім салдатам —
Мы разбяромся, хто у вас
З адзеннем вінаваты.

Мы развіталіся як след —
«Прабачце за турботы».
— Цяпер у нас,— сказаў сусед,—
Ёсць вопратка і боты...

Як непрыкметна час бяжыць.
І радасць меў і ўдачы...
Я недарэмна век пражыў —
Бо Леніна пабачыў...»

# ДАЛЁКАЮ ПАРОЮ, У СІБІРЫ...

30 красавіка 1897 года У. І. Ленін з прыстані Краснаярск на параходзе «Святы Мікалай» выехаў у Мінусінск, накіроўваючыся ў ссылку ў сяло Шушанскае.

Рака у буйным веснавым разводдзі —
І берагі адсунуліся ўдаль...
Павольна адзінокі параходзік
Грабецца супраць круталобых хваль.

Ён зрэдку хрыпне голасам старэчым:
Судно, здаецца, дажывае век...
І, паліто накінуўшы на плечы,
На палубу выходзіць чалавек.

Вясна ў Сібіры... і у ёй ёсць штосьці
Ад вёснаў тых, што Волгай праплылі...
Захоплен ён суровай прыгажосцю
Суровай і нязведанай зямлі.

Зімой тут вецер па сумётах вые —
Вавёрка не пакажацца з дупла...
І ўсё ж і тут жыве душа Расіі,
Халодная, ды з кропляю цяпла.

А будзе час, абавязкова будзе —
І край глухі дасць шчодрыя дары,
Без ланцугоў сюды прыедуць людзі
На бераг Енісея, Ангары.

Плыве судно па енісейскай шыры,
І чалавеку далячынь відна...
Далёкаю парою у Сібіры
Ішла вясна, спяшалася вясна.

## ЛЕНІН У ШУШАНСКІМ

Мароз рыпіць, мароз пякучы сушыць,
Па вокны хаты ноччу замяло...
Пад коўдрай белаю заснула Шуша,
І ўсё ж не спіць сібірскае сяло.

Зіма яму не спела калыханку —
Са звонкім смехам з кручанай гары
Ляцяць гурмою на скрыпучых санках
Ружовыя малыя снегіры.

...У бель выходзіць ён з утульнай
хаты —
Эх, не мароз, а проста кіпяток!
І на плячы — драўляная лапата:
Гайда, гарэзы, расчышчаць каток!

Нібы гарох, сыпнулі разам з хатаў
Чародкамі ў валёнках хлапчукі...
І замільгалі у руках лапаты —
І вырас снежны вал сярод ракі.

Звініць рака, мароз ужо не крача,
На гаманву ён дзівіцца, прыціх:
Хто на адной «драўлянцы» ўпарта скача,
Хто паралелі піша на дваіх.

Смяюцца сонцам і сумёты, гурбы,
Святло ў душы, святлу няма мяжы...
І на нагах курносыя снягуркі
Выпісваюць крутыя віражы.

У каруселі сонечнай на лёдзе
Ён акрылёны, быццам весні птах...
Зайздросцяць дзеці дзядзечку Валодзю:
Вось так бы ім катацца на каньках!

Дзятва звініць, дзятва у захапленні,
Ёй хораша смяяцца, пакрычаць...
Пасля пазнаюць, як на Шушы Ленін
Не толькі лёд сібірскі расчышчаў.

## ЁСЦЬ ВУЛІЦА Ў ПАРЫЖЫ

Ёсць вуліца ў Парыжы — Мары-Роз,
Чуваць на ёй, як плешчуць хвалі Сены.
Тут веснавой узбуджанай парой
Кіпяць каштаны жаўтаватай пенай.

Раскажа тут сівенькі старажыл,
Паклаўшы на кіёк нязграбна рукі,
Як з ім калісьці па суседству жыў
Вясёлы сімпатычны рускі.

Адразу ж вобраз непаўторны той
Са слоў француза наяву ўваскрэсне.
...Вясна і сонца... Лёгкаю хадой
Ідзе у парк ён з раскладанкай-крэслам.

Бярэма кніг ахоплена рукой,
Тырчыць з кішэні пікаю аловак...
Каштаны ў парку сцерагуць спакой,
Каб не парушыць з кнігамі размову.

Задумаўся, не чуе чалавек,
Як птушак льюцца трэлі залатыя...
І спее, спее дума ў галаве —
Святая дума аб табе, Расія.

Краіну трэба абудзіць ад сну
І назаўсёды знішчыць гнёт і здзекі,
І абвясціць сапраўдную вясну —
Свабоду, шчасце творцу-чалавеку...

Раскажа вам сівенькі старажыл
З дзіцячай радасцю і захапленнем,
Як па-суседску з ім калісьці жыў
Вялікі рускі —
неўміручы Ленін.

## У РАЗЛІВЕ

Гарыць касцёр, патрэсквае вуголле,
Булькоча чайнік, залівае жар.
Заснула ноч, спавіўшы наваколле,
І толькі ён не спіць ля шалаша.

Таропка піша ў сшытак на калене,
Забыўшыся пра чай і пра агонь.
Ад працы зрэдку адарвецца Ленін,
Успыхнуць аганькі ў вачах яго.

Ён у народ, ён у Расію верыць,
І зноў бягуць з-пад ленінскай рукі,
Пры водблісках кладуцца на паперу
Вялікай праўды і святла радкі.

Бягуць радкі, і пад рукой прывычна
Лісты у сшытку спісаным шуршаць...
І зарывам займаецца Кастрычнік
З маленькага кастра ля шалаша.

## УПЭЎНЕНАСЦЬ

Дваццаты год, разбураны, галодны...
Дождж за акном назойліва імжыць.
У кабінет да Леніна лагодна
Ідуць гуртком джэнтльмены з-за мяжы.

Скрыпяць гасцей заморскіх чаравікі,
З іголачкі, відаць, што так чутны.
Цікавіць сэраў чалавек вялікі,
А ён так проста ім: — Прашу, паны.

За этыкетам не схаваць здзіўлення —
Яно ў вачах газетчыкаў гарыць:
— Скажыце, можна з вамі, містэр Ленін,
Аб вашых планах шчыра гаварыць?

— Так, калі ласка, мы заўсёды
шчыры.
І сыплюць містэры з усіх бакоў.
На Волзе голад, голад у Сібіры,
Расія гіне, крах бальшавікоў...

Чакаюць людзі, моў, удосталь хлеба...
Няма адзення...
І трывожны час...
— Вы ж ГОЭЛРО? Ці ёсць у тым патрэба?
Не выйдзе, пэўна, з ім нічога ў вас.

— Я камуніст, і ў планы нашы веру!
Вось прыязджайце к нам
праз дзесяць год...
І нават недаверлівыя сэры
На нейкі міг паверылі ў яго.

Але няўцям было заморскім сэрам,
Што верыў Ленін ў партыю, народ.
...Нам свет стары не раз крычаў
«не верым!»
І глоткай і разбойніцкім пяром.

А мы ішлі наперад цвёрдым крокам,
Выводзілі краіну на прасцяг,
Трымала партыя заўжды высока
Вялікай праўды ленінскае сцяг.

І гарады ўздымаліся ў пустынях,
Палацы вырасталі на вачах.
І зорамі займалася краіна —
Спаўняліся жаданні Ільіча.

За годам год — у неабсяжнасць
дзверы:
Савецкі край мужнее і цвіце...
І ў моц сваю прымусілі паверыць
Тых, хто ніколі верыць не хацеў.

У камунізм шлях светлы пракладаем,
Усё бліжэй ён, той жаданы час...
І ўпэўненасць у сэрцы нам ўсяляе
Заўсёды родны вобраз Ільіча.

## ПАРТРЭТ ІЛЬІЧА

Як толькі мы прыйдзем у школу
І дзверы адчынім у клас,
З партрэта з усмешкай вясёлай
Ільіч пазірае на нас.

Іскрацца ягоныя вочы,
Калі атрымае хто «пяць»,
А сам ён — як быццам бы хоча
«Выдатна, рабяты!» сказаць.

У кожны загляне ён дзённік.
І кожны пачуе адказ.
У школе, ў паходах штодзённа
Ільіч дарагі сярод нас.

Вядзе ён і сёння народы
Да радаснай мэты ў жыцці.
Клянёмся, што будзем заўсёды
Мы ленінскім шляхам ісці!

## СУСВЕТНЫ ГІМН

Музыку да «Інтэрнацыянала»
напісаў французскі рабочы
(токар па дрэву) П'ер Дэгетайр.

Здаецца, акіян ракоча
І крышыць скалы-берагі...
За нотай нота... То рабочы
Натхнёна піша грозны гімн.

У ім — раскат грымотаў гордых,
Звон ланцугоў, суровы гнеў,
Само жыццё дае акорды,
Ад мужных сэрцаў той напеў.

Сваёю моцай ён згуртуе
Усіх, хто цяжкі гнёт насіў...
«Мы наш, мы новы свет збудуем,
Хто быў нічым, той стане ўсім».

Здаецца, акіян ракоча
І коціцца дзевяты вал...
За нотай нота... То рабочы
Стварае гімн —
«Інтэрнацыянал».

Каб перуном ён грозным трэснуў,
Тыранаў, злыдняў пакараў...
На барыкадах з гэтай песняй
Рабочы будзе паміраць.

Яна праб'ецца і з-за кратаў,
Яе кардонам не стрымаць,
Люд абяздолены на катаў
У бойку будзе падымаць.

З ёй пройдуць людзі шлях цярністы,
Пакуль ўсе здымуць ланцугі,—
Такая роля камуністаў,
Так кліча іх сусветны гімн.

# БАРВЯНАЕ ЛЯДА

Паэма

*Памяці ахвяр Хатыні*

## I

Калі гарыць у вёсцы хата,
У рэйку б'юць — трывожны звон.
Надрыўным, ўзбуджаным раскатам
Здавён людзей склікае ён.
На гэты гул, на гэты гром
Бяжы з вядром,
                бяжы з багром!
Каці хутчэй рукаў ад помпы,
У студню ўкінуўшы другі,
Ды пампаваць прыйдзі на помач —
І затрашчыць струмень тугі.
Ці на страсе суседняй хаты
Ты з мокрай посцілкай пільнуй
Пякельных вос, клакоў калматых —
Не дай раскрыяіцца агню!

## II

Дзядзька шыльдачкі
                прыбіваў на хатах.
Малатком:
        стук-стук-стук!
На вуглу адной —
                іржавая лапата,
А на гэтай багор —
                іржавы крук,
Бо ў хаце мужчына дужы.

А вось тут — вядро.
Удава, без мужа...
Тут патрэбна бочка.
А тут — сякера.
Прымацаваў апошнюю.
Праверыў.
Роўна дваццаць шэсць
дашчэчак.
Пастаяў,
падумаў аб нечым.
Скруціў папяросу
І смачна закурыў —
Аж выпусціў дым
носам...
Да свірна паціху
пакрочыў,—
Пастражэлі вочы:
Вады на дне
ў бочцы ўкапанай —
Пазелянела,
пахне пагана.
Наліць трэба свежай поўна.
Праверыў уважліва
помпу
Пад саламянай павеццю —
Рукаў разматаны:
Ізноўку сваволілі дзеці...
Тут ўсё у належным
стане:
Багры, вядро, тапор
пад страхою,
З бочкі не патыхае,
І пасвятлеў ён тварам:
Здаецца, усё
на выпадак пажару.

III

Загарэліся,
                    ўспыхнулі хаты,
Дзе ж трывожнага гулу раскаты?
Дык чаму ж не звініць болей рэйка
І не коціцца поклічам рэха?
Ліжа полымя сквапна
                              вуглы —
Вёдры, бочкі, багры...
Дык чаму ж ніхто не бяжыць?
Дрэвы стогнуць
                         адно —
                                   жыць,
                                          жыць...

IV

Уладарна цопалі цапы.
Залатыя снапы, снапы...
Расперазаныя,
                    распаясаныя,—
Госці з поля яснага —
Залатыя снапы, снапы...
Залатыя цапы
Выбівалі прыглушана такт:
— Так-так-так!
                    Так-так-так!
Аж звінеў ад іх ток:
— Так — цапок,
                    так — снапок...
І сцяной стаялі кулі,
Паспрабуй — перакулі!
Як рукамі звязаныя,
Зноўку падпяразаныя
Пакрысе, пакрысе
Іх прычэша шчотка.

На страсе
Іх прывяжуць віткамі
да латаў —
Маладзее хата,
харашэе хата.
Да самога коміна —
К саломцы саломіна,
Не зацекчы столі
Больш цяпер ніколі.
Залатыя цапы
Гаварылі:
— Цоп-цоп!
Абмалоцім пяць коп.
На салому і на палову,
На кулі — напалову.
Залатыя снапы, снапы...
Залатыя цапы
Уладарна хадзілі ў такт.
Так было.
І не будзе больш так.

V

Клекатаў белы бусел
на хаце,
Як спажыву прыносіў
дзіцяці.
Ды успуджаны
птушак прылёт—
Клекатаў,
клекатаў кулямёт.
Ой, навошта ж прыйшло
тое ліха?
Устрывожана з буслам
бусліха.
Гэта ж так яны шчыравалі,
Як гняздо сваё будавалі —

Насілі сучча рагатае,
Стала роднай ім хата.
Ніхто іх не трывожыў —
Кранаць буслоў
няможна,
Бо гавораць людзі —
Бусел злосны будзе,
Як гняздо хто разварушыць
Ці яйкі парушыць.
І дзяцей так сцешваюць:
— Прынясе ён галавешку
Гарачую
І на хату кіне...
Хто такое бачыў?
Не было і ў паміне.
Так і жылі.
Буслянятак цешылі.
Хто ж прынёс
на страху галавешку?
Узмахнуў крыллем жаркім
певень —
Да гнязда дабярэцца
пэўна...
Сціх пажар.
І ніхто больш не ўбачыў:
Селі птушкі
на комін гарачы.

VI

У вёсак з дрэва і саломы
Быў сціплы выгляд
нашых хат —
Нікому вочы не калолі...
Запомнім памяццю
ў сто крат —
Дваццаць шэсць хат!

Сэрца, ў грудзях застынь...
Хата да хаты — Хатынь.
Людзі сеялі, людзі жалі
І дзяцей на свет
нараджалі.
На свет, на свет —
Як след, як след.
Жылі,
сварыліся,
мірыліся —
Вёска,
аржаная вёска
З борам тугім
зраднілася,
З лугам мурожным,
росным,
Хатынь...
Кроў, у жылах застынь!
Вёска ўвечары
песні спявала,
Вёска ўдзень
на зямлі шчыравала —
Усяго ў дастатку хапала.
Дзеці снілі харошыя сны —
Ад сасны, ад сасны...
Прачыналіся ранкам
росным
І да вас шыбавалі,
сосны.
Вы пад сонцам,
як воск,
загарэлі
І згарэлі...
Згарэлі
Не для пульхных
прасяных ляд...
Дваццаць шэсць хат...
З сонечных бёрнаў,

З ляснога рэха,
З моху,
        што можна курыць...
Душа агнём гарыць...

VII

Вывеў комін сусед —
З печнікам прыселі,
Значыць, будзе як след
Наваселле.
Пасля працы пячнік
Пакурыць прывык —
Смачна зацягнуўся,
Каб і комін яго
        дымком не папярхнуўся.
Правяралі цягу —
Падпалілі дровы.
Не даў майстар маху —
Будзь здаровы!
Комін з цэглы ж калёнай,
Як звон,
        як звон.
І гудзе шалёна
У печы агонь.
...Юшкі рана зачыняць —
Комін жа ва ўладзе,
Вуглі хай перагараць,
Каб не ўчадзець.
Будзе чысціць камінар
Стылы комін важна,
Каб не ўзнік пажар,—
Абмяце ён сажу.
Цягаваты комін.
Працаўнік.
Хаты чорнарабочы,

Пажар узнік!
Пачарнеў і комін.
Усё ж узнік!
Цямней ад ночы.

VIII

Каміны, каміны...
Дваццаці шасці хат.
Званы, званы...
Дваццаць шэсць —
Набат!
Слухайце, людзі,—
Памяць у гэтым гудзе...
Каміны, каміны,
Званы, званы
Над магілаю
мірных салдат...
Дваццаць шэсць?
Не, тысячы спаленых хат!
Справа чорных фашысцкіх рук —
Растаптаны крывавы павук.
І на покліч трывожны набата
Мы ідзём!
Мы судзіць ідзём катаў.
Дзе хаваешся ты,
недабіты кат?
Чуеш, гнеўна гучыць набат?!
Клічуць,
клічуць званы людзей.
Мы ідзём,
мы ідзём,
мы ідзём...
Бясконца.

# ВЕРШЫ

## БРАХУН І ПАДБРЭХІЧ

Часам коціцца мана,
Быццам тое рэха,
Бо заўсёды ў брахуна
Знойдзецца падбрэхіч.
Хлус гаворыць: — Бачыў льва
Я сягоння ў лесе.
— Не адзін, было іх два,—
Тут падбрэхіч лезе.
Брэша хлус: — Я шчупака
Вылавіў з паўпуда.
— Сам трымаў яго ў руках,
Я брахаць не буду.
— Крыж на небе бачыў я
І крывавы месяц...
— Жонка бачыла мая,
Не сысці мне з месца...
Спараваліся вось так
(Што ж, яшчэ бывае).
І падбрэхіч, быццам дзяк,
Хлусу падпявае.
Слухаеш, марнуеш час,
А ці варта смеху?
Шкодны тып брахун для нас,
Яшчэ горш — падбрэхіч.

## ПІСЬМО ЗАЙЦА

«Дарагія байкары,
Гэта піша Заяц...
З некаторае пары
Проста я ў адчаі.
Паднялі мяне на смех,
Ды з мараллю строгай,
Быццам я вам перабег
Некалі дарогу.
І бярэ такое зло,
Точыць засмучэнне:
Стаў я нейкім вам Казлом.
Як там? Адпушчэння.
Хто ні піша, я — трусак,
Дам заўсёды маху.
Гэй, сябры, яно не так —
Ўсе звяры са страхам.
Вось Ліса. Яна мастак
На курыну лапку,
А пачуе брэх Сабак —
Дасць такога драпу!
Воўк — клыкасты жывадзёр,
Пры лясной праверцы
Ледзь ад страху не памёр
Ад разрыву сэрца.
Я скажу вам, і Мядзведзь
Не такі ўжо волат:
Напалоханы, ледзь-ледзь
Ногі ўнёс... ад пчолаў.
Калі праўду гаварыць,
Дык і Леў не шышка...
Вось пра гэта, байкары,
Болей вы пішыце.
Я не ўсё яшчэ сказаў...
Нельга з тым мірыцца...»
Заяц ліст той дапісаў,
А даслаць... баіцца.

## ЯК У ФУТБОЛ КОТ ГУЛЯЕ

Мячык пругкі ў Пеці ёсць —
Ён жаданы ў доме госць:
Пеця б'е пад бок яго
І рукамі, і нагой.

Не адзін прыгожы гол
Ён забіў пад самы стол.
Ёсць адзін ігрок —
Гэта шустранькі каток.

Разгуляецца кіс-кіс —
Ну, сапраўдны футбаліст!
Па падлозе коцік
Мяч віхурна коціць.

І пад той жа самы стол
Не адзін забіў ён гол.

## ВУСАТАЯ МАШЫНА

Раз па вуліцы хадзіў
Лёнька разам з татам.
Хлопчык крыкнуў: — Паглядзі —
Грузавік вусаты!

Сапраўды, як кот, паўзе —
Не занадта шустра,
А пракоціцца ён дзе,
Дык асфальт — як люстра.

Дзе праедзе — там краса.
Лоўкая мяцёлка!
І гарыць у тых вусах
Яркая вясёлка.

## ЗАЙЧЫКАВА КАПУСТА

Пасадзіў зайчык капусту,
Прарасла яна густа-густа.
Паліваў зайчык расаду,
Пільнаваў ад граду.
Як вырасла капуста,
Зайчык яе хрумстаў.
Хапіла б яе да снегу,
Ды гусі набеглі.
Елі і таптали,
Яшчэ й рагаталі.
Дзе была капуста,
Стала пуста-пуста...
Зайчык і сумуе:
Як ён зазімуе?
Бо ён знае, голад
Найстрашней за холад.

## ЭПІГРАМА НА САЛАЎЁЎ

Захвалілі салаўёў паэты,
Славы ім падсыпалі ад сэрца,—
І яны картава і няспета
Сталі абыяка браць каленцы.
Закаханых рэдка калі цешаць
Серабрыстым пошчакам рулад...
Кажуць, што вясёлы перасмешнік
На салоўкаў эпіграму склаў.

## МАЕ ЧЫНЫ

Я не маю дачынення
Анікольki да чыноў.
Ды паверце, тым не меней
Я ў «чынах» расці пайшоў.

Быў спачатку Халасцяк —
Чын не важны дужа,
Ды няўмольны ход жыцця —
Я зрабіўся Мужам.
Нарадзіўся потым сын,
Хлопчык вельмі хвацкі,—
Яшчэ больш высокі чын
У мяне стаў — Бацька.
Весялей з тым чынам жыць,
Так скажу па праўдзе я.
Мне б да Дзеда даслужыць,
Там бліжэй да... Прадзеда.

## РЭВЕРАНС ПЕРАД ЧЫТАЧОМ

...і святло на ўсходзе выплыла
выпхнутай выспачкай...
Бор падумкі маёй спалохаўся,
нашэжыў
зялёны хіб.

*Рыгор Барадулін. Верш «Усё не акрэслена на шарэнніку», новы зборнік «Нагбом»*

Ты, чытач, мяне
толкам вычытай
І з развагамі —
вагамі вычакай.
Рыфм маіх
абыдзі шарэнгі —
Ёсць святло ж у радках
і шарэннік.
Паважаю твае заўвагі,

Быццам ветлівага
заўмага.
Праўду-матку кажу, далібог!
Асушу маю кнігу —
«Нагбом».
Мо не ўсё ў ёй добра, чытач,
Дык прабач...

# КАЛАМБУРЫ

## ПАСІЎНЫ ФУТБАЛІСТ

У цэнтры добра
пасаваў,
А ля варот ён
пасаваў.

## ВЫКРУТАСЫ МАХЛЯРА

Круцель круціў заўжды
на рэшце —
дачу збудаваў
нарэшце.

## ПЕРАВАГА

Кампот паказвае на вар:
— А балбатаў, што ёсць навар.

## ЦІКАЎНЫ

Кафейніку
цікава —
Смачнейшы чай
ці кава?

## НЯВАРТАЯ ВАРТА

Узнік пажар. Праспала варта.
Яна была сябе не варта.

## СПРАВЕ — ТРУБА

Пазелянелая
труба
Казала: «Пэўна мне
труба.
Пяском бакі свае
тру, бач...
Вазьмі ў аркестр мяне,
трубач».

## ФУТБОЛ НЕ АДБЫЎСЯ...

На поле выйшлі ігракі —
Вароны і гракі.
Іх заяц-рэпарцёр на плёнку зняў.
Бацян-суддзя ж з гульні іх зняў.
Сыгралі ім футбольны марш,
А пад яго і з поля — марш.
Была у іх адна віна —
Гулякі выпілі віна.

## КЛОПАТ ПРА КУРЭЙ

Ліса падсунула зварот,
Як покліч добрай волі:
«Пускаць усіх курэй з варот —
Хай наядаюць воллі».

## ПАТРЭБНА МЫШАЛОЎКА

Яйка раз чубатка знесла —
Адразу ж мышка яго знесла.
Зрабіла мышка лоўка? —
Патрэбна мышалоўка.

## БАГАМОЛЬЦУ

Душа яго ўпекла
Усё роўна ў пекла.

## ЦВЯРОЗАЯ ДУМКА

Піў ён снатворнае:
не спіцца!
І думае,
хаця б не спіцца!

## САМОТА ДРАМАТУРГА

Ён п'есу падзяляў
на дзеі,
Пісаў за сцэнай
сцэну,
А на прэм'еры без
надзеі
І сам глядзеў на
сцэну.

## РАССЕЯНЫ

Як закруціла яго
справа,
Не ведаў злева што, што —
справа.

## ДАПЯКЛА

Слон крыкнуў Мосьцы:
— Задушу!
Як узяла злосць
за душу.

## РАКАВЫ ВОЧЫ

Бог слаў праклёны з
неба раку:
— Калі ты да зняваг
ахвочы,
Я пакажу табе!
І небараку
Даў не туды...
ах, вочы!..

## РЭЎНАСЦЬ

Хлапчына вёў
пракосы
І напяваў
пра косы.
А поруч позірк быў
касы —
Другі жадаў тае ж
касы.

## УДАЧЛІВЫ РАСКРАДАЛЬНІК

Як у люстры ягоныя ўдачы:
У машыне, у касе і ў дачы.

## ПАПЯРЭДЗІЛА

— На рэчцы сёння
качка,—
Да Гускі кажа
Качка.

## САМАКРЫТЫЧНЫЯ ЗАЎВАГІ АГРАНОМА

Як прыйдзе холад на палі —
Збірай бульбоўнік і палі.
Як смягнуць засухай палі —
Ты хоць гародніну палі.
Калі ж ты дбаеш пра палі,
Ты іх старанна прапалі.

## ПЕРАБЛЫТАЎ

Падпіў Мядзведзь наш
і са сну
Прыняў бярозу
за сасну.

## ПЫРНІК

Хоць і расце
ён невысока,
Ды больш за іншых
цягне сокаў.

## КРОТ

І днём і ноччу
для Крата
Адно і тое ж —
слепата.

## КАБ НЕ АТЛУСЦЕЦЬ

Конь скардзіўся аднойчы
барану:
— Ты пацягаў бы
барану.
Ад ранку да цямна не
спаў бы.
І тлушч адразу
спаў бы.

## ГАРАДКІ

У іх існуе свой закон —
Не вылецець за кон.
Ды ім сказала палка-біта:
— Усё роўна ваша карта біта.

## З БОЖАЙ ПОМАЧЧУ

Людзей поп зазываў пад лікі —
Пасля чырвонцам вёў падлікі.

## ПАСПЕШЛІВЫ КАМІНАР

У коміне праверыў цягу
І хуценька даў цягу.

# КАРАЦЕЛЬКІ

## ЗЛОЎЛЕНЫ ШЧУПАК

Відаць бы, зубы паказаў,
калі б
Яго за жабры
не ўзялі.

## МУЗЫЧНЫ ПЕНЬ

Ля Пня канцэрт
вялі звяры —
І Пень быў выбран
у журы.

## АПАЛОНІК

Пад рыбу цэліў,
задавака,
Аж покуль жабай
не заквакаў.

## РАГАТЫ ПАДЫХОД

Баран лічыў —
патрэбны рогі,
Каб не ўступаць
Казлу дарогі.

## АГУРЭЧНАЯ КРЫТЫКА

«Гарбуз адлежаў
правы бок»,—
Крычыць жаўклявы
Агурок.

## ПІЛА

У Пілы знаёмы
почырк —
На ўсе дрэвы
зубы точыць.

## ЗАПАЛЕНАЯ СВЕЧКА

Такі характар мае
Свечка:
Хто толькі чхне —
ужо трапеча.

## ВАЖНЫ ГУЗАК

Гузак ускочыў
на ілбе.
І шышкай важнаю
назваў сябе.

## ЧАЙНІК

Шыпіць на іншых
дужа многа,
Як дапякуць
яго самога.

## МУХА

Слану ўсё дзынкала
на вуха:
— А ўсё ж твой род
пайшоў ад Мухі.

## КУРЫНЫ СМЕХ

Калі Лісу за хвост
спаймалі,—
З яе смяяцца
й куры сталі.

## РАДАСЦЬ ЦЕЦЕРУКА

— Мне сам Мядзведзь
ступіў на вуха! —
Хваліўся ён.
Таму й аглух я.

## ЗУБ МУДРАСЦІ

На свет прарэзаўся
Зуб хітрацом:
Жавалі іншыя,
а ён — стаў мудрацом.

## ПЕРЦАВА ГОРЫЧ

Чырвоны Перац
гарачыцца:
— Я не раўня
якой Гарчыцы!

## ТАЎКАЧ

Грукоча, зерне
лушчыць на крупы...
Таўчы ваду
гатоў у ступе.

## РАК

Хоць і крадком,
але не-не
І Рак
кагосьці ушчыкне.

## ДЗЯДОЎНІК

Як учапіўся
за суkenку
Дзяўчыначкі-паненкі,—
Забыў,
як на хвасце ў каня
Калісьці
мух ён адганяў.

## БУРШТЫНОВЫЯ КАРАЛІ

«Мы нарадзіліся
у моры»,—
Каралі ўспомняць...
у гуморы.

## СКАРГА КАРАЕДА

— Хоць Дзяцел
                    тапаром сячэ кару —
Яму усё
            сыходзіць з рук.
А я вазьму
                ледзь-ледзь на зуб —
Мяне з усіх бакоў
                      грызуць.

## САСНОВАЯ ШЫШКА

Трымалася высока
                      Шышка,
Ды ўпала
            нізка.

## ЗАХАПЛЕННЕ АСЫ

— Я прыляцела толькі што
                              з Італіі...
У Вос там
            эле-ган-тней таліі.

## ХТО ПЛАКАЎ

«Бабёр сягоння
                  біў Бабрыху,—
Стракочуць плёткі
                      на ўвесь бор.—

Бабрыха
слёзы лье паціху...»
А плакаў жа
якраз Бабёр.

## ЗАЯВА ШЧАКІ НА ЗУБ

«Заява кароткая
будзе мая:
Чаму ён хварэе,
а пухну ўсё я?!»

# ЭПІТАФІІ

## ПАДХАЛІМУ

Я заслужыў на свой вянок,
Усім паведаміць я рады:
Ляжу ў начальніка ля ног
І з ім цяпер — запанібрата.

## ПЛАГІЯТАРУ

Жыццё налёгкае у нас,
Адна бяда, адно напасце:
Ніяк не трапіш на Парнас,
Каб эпітафію украсці.

## МАХЛЯРУ

Не трэба мне ні надпісы, ні пліты —
Абы было ўсё шыта-крыта.

## ПЛЕТКАРУ

Не скажу, каб меў язык кароткі —
Дзейнасць я разгортваў кіпучую...
Сам памёр, ды ходзяць мае плёткі,
Бо яны ў мяне жывучыя.

## ЗАЙЗДРОСНІКУ

Было ў мяне зайздроснае жыццё —
На ўсё гарэлі вочы, як касцёр.
Я, можа б, не сышоў бы ў небыццё,
Ды вось бяда — ад зайздрасці памёр.

## ХАБАРНІКУ

Браў пры жыцці я пакрысе —
Прыносілі без сведак.
Чаму ж ніхто не прынясе
Мне сёння... хоць бы кветак?

## ПІЛЬНАМУ

Ніяк не ўцямлю — што за свет!
Каму данесці я павінен,
Што кожнай ноччу мой сусед
Чарцей збірае ў дамавіне?

## ПЕРАСТРАХОЎШЧЫКУ

Я ўласнага заўжды баяўся «я»,
І гэтая магіла не мая!

## ДВУРУШНІКУ

Я жыў сумленна, быў душою шчыры,
Любіў людзей і чалавечы род...
Прахожы, заўтра падыдзі ты шчэ раз
І надпіс прачытай наадварот.

# АФАРЫЗМЫ

Пачынаючы кампазітар напісаў ужо сваю лебядзіную песню.

Паэты так заездзілі Пегаса, што ён цяпер рэдка каго можа ўзнесці на Парнас.

Падначаленыя курылі начальніку фіміям, таму што баяліся яго, як чорт ладана.

Ён меў адзіную ўласную думку: ніколі не выказваць уласнай думкі.

Голас у начальніка быў нізкі, але ў ім заўсёды гучалі высокія ноткі.

Уз'ехаўшы на брук, калёсы заляскаталі: «Мы зусім выбіліся з каляіны».

Нуль заўсёды трымаецца важна, калі ён стаіць поруч з палачкай.

У яго працоўнай кніжцы былі толькі адзнакі «па ўласнаму жаданню»...

Для п'яніц ніколі трэці не лішні.

Некаторыя лічаць цыбулю самай сентыментальнай.

«Я не разменьваюся на дробязі»,— выхвалялася Капейка перад Пятаком.

Яшчэ ні разу Дамоклаў меч на ўпаў ні на чыю галаву.

Мараль крылоўскай байкі дайшла, нарэшце, да Вароны, і яна зараз адказвае Лісе толькі пасля таго, як з'есць сыр.

Горы на плячах пераносіць адзін толькі вярблюд.

Дарэмна чытачы шукалі ў творы соль — ён быў прэсны.

Пасля выкрэсліванняў, зробленых рэдактарам, аўтар заўсёды меў сваю акрэсленую думку.

Усё жыццё паэт беспадстаўна выбіраў сабе перад люстэркам паставу для помніка.

Тынкоўшчыку не раз даводзілася замазваць свае грахі.

У сваёй справе ён з'еў сабаку, а вось начальніка раскусіць ніяк не змог.

Яблык, які ўпаў на драмаўшага пад яблыняй Ньютана, разбудзіў у ім генія.

Лектар малоў многа, хоць і мала было ў яго рацыянальнага зерня.

У сваім жыцці рымар шмат нахамутаў.

Паэт праславіўся толькі тым, што ўвесь час ганяўся за славаю.

Ананімшчык кідаў на ўсіх цень, застаючыся сам у цяньку.

Гара прыйшла б да Магамета, каб Магамет быў на вышыні.

...А ён быў варты выедзенага яйка.

Артыст цырка ўтрымліваў раўнавагу на дроце, але быў неўраўнаважаны ў жыцці.

Ён смяяўся не сваім, а гамерычным смехам.

Эзопаву мову не разумелі толькі Аслы.

Пажарнікі прыехалі позна, але ад'язджалі з помпаю.

Апроч сваіх дзвюх рук ён меў яшчэ руку ў трэсце.

Пуга лічыла сябе стараннай выхавацелькай і штодня свістала: «Я выбіваю з коней ляноту».

Яму нельга было падабраць адпаведную рамку, бо ён выходзіў з усякіх рамак.

Кампазітар напісаў фугасную музыку.

Народны суддзя лавіў злачынцу на слове, хоць яно было і не верабей.

Уся душа Ахілеса ўвайшла ў пятку.

На страх камандзіраваных у гасцініцы ў кожным нумары вісела карціна І. Шышкіна «Раніца ў сасновым лесе» з мядзведзямі.

Рэдкай з'явай сталі цяпер вершы ў прозе, затое шмат стала прозы ў вершах.

Рыбалова-браканьера некалькі разоў выводзілі на чыстую ваду, але і пасля гэтага ён адчуваў сябе як рыба ў вадзе.

З'едлівы чалавек шпількі носіць у сваёй паддзёўцы.

«Па руках!» — сказалі махляры, ляпнуўшы далонню аб далонь. І яны сапраўды атрымалі па руках.

Бот нікуды болей не рыпаўся, хоць і хацеў есці.

Ляснік умеў абводзіць сваё начальства вакол пальца, але пасля добрага магарычу сам заблытаўся ў трох соснах.

У яго слоўнікавым запасе было мала слоў, але гэта не перашкаджала яму быць шматслоўным.

Нават на сустрэчы з Ваўком Авечцы неба не здалося з аўчынку.

«Да освятится имя твое...» — напэўна, перахрысціўся Герастрат, падпаліўшы храм.

Начальнік дужа любіў прыёмы і не любіў прыёмных дзён.

«Усё роўна я пераважаю над табой! — выхвалялася Звычка над Адвычкай.— У маім характары больш упартасці, чым у тваім — настойлівасці».

Словы ён ніколі не кідаў на вецер, бо, каб сказаць іх, папярэдне шукаў зацішку.

## ЯЎГЕН САВІНАЎ

### ПАКЛОН БЕЛАРУСІ

На балатáх, у цесных хатках,
Ля курадымнага кастра
Ты сустракала, як салдатка,
Дарыла ласку, як сястра.

Блукала выгаралай пожняю,
Залела ў зрэбным палатне,
Ты несла бульбіну апошнюю
З слязою радаснаю мне.

Так адкрывала нам, пяхоце,
Сваю трывожную красу:
Дарыла воблака ў палёце,
Пралескай разганяла сум.

І ў цішы, і ў трывожным гуле
Я ўчуў, запомніў назаўжды,
Як лічыць мне гады зязюля,
З надзеяй светлыя гады.

Ты чаравала сумнай песняй
Наш змораны хадою полк.
І смех дзяўчыначкі палескай
І зараз ува мне не змоўк.

І з цеплынёю невычэрпнай
Зноў памяць да цябе нясе.

Люблю цябе ў смузе вячэрняй,
У ранішняй люблю красе.

Твае ласкавыя прасторы,
Тваіх сінічак галасы,
Твае зялёныя азёры,
Твае чарнічныя лясы.

* * *

Парой халоднай вербацвета,
Калі блукаюць скразнякі,
Так хочацца вясны і лета,
Ах, людзі — ўсе мы дзівакі.

Пра сёння дбаем малавата,
А ў заўтра цягнемся ў мальбе.
Не прыспяшайце дзень крылаты:
Ён сам акрэсліць шлях сабе.

Калі ж апошні срэбны коцік
З чырвонага зляціць сцябла,
Да сэрца ціхі боль падкоціць —
Ах, вось вярба і адцвіла.

# *З латышскай паэзіі*

## *ЯН СУДРАБКАЛН*

### З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ

I

— Мая перавага заўсёды,— дзень кажа.—
На золку крамяным маглі вы дзівіцца;
Мой водбліск зіхціць на маліне, пшаніцы...
— Мая перавага заўсёды,— дзень кажа,—
Спяшаецца змрок ад сваіх уладанняў,
Як зорка чырвоная вынырне ўранні.
— Мая перавага заўсёды,— дзень кажа,—
Растуць і растуць мае цёплыя рукі,
Зямлю абдымаюць да болю, да мукі...
— Мая перавага заўсёды,— дзень кажа,—
Са мной нараджаюцца ў сэрцы надзеі:
Да кроплі святла — для людзей, для
людзей.

II

Хачу жураўлём стаць, змарнелым,
галодным,
Што з выраю крык зноў прынёс жураўліны
І ў родным балоце дасвеццем халодным
Прамёрзлыя сквапна дзяўбе журавіны.
О як па душы кіслых ягад гаркота
З тых купін імшыстых, дзе ногі хадзілі!
Як боль несціханы, як весняя нота,
Ляці, мой шчымлівы наказ, на радзіму:
Снуюць жураўвы цераз моры і рэкі —
Мы ж вернемся ў край свой навекі, навекі.

## ЛЕТУЦЕННІК У БЭЗАВЫМ СУРДУЦЕ

Калі на залатыя прыступкі выходзіць
Яе Вялікасць Ноч,
Перад ёю Вечар падае ніцма,
Чорны, як слуга-гатэнтот.
Пагойдае плаўна хвастом ён паўлінавым,
А на блакітным фая́нсавым сподачку
Пераліваюцца касякі драбнюткіх
зорак,—
Якія потым сыпане ў студню
Захмялелая ад птушыных песень
Ружоващчокая Раніца.
Калі ж расплюшчвае сваё вока,
Вялізнае лімоннае вока
Свяцейшая Вялікасць Ноч,
Нібыта ў таямнічае блакітнае мроіва
Трапляеш ты...
Дык гэта ж так! Цяпер я ўжо ведаю,
Цяпер я дакладна памятаю:
Як толькі агнём загарэўся захад,
Я зноўку спаткаў яго
Пад бледна-зялёным шатром алеі —
Джэнтльмена ў бэзавым сурдуце,
Таго, што прыходзіў з казкі
Майскімі цёплымі вечарамі
У добры далёкі час...
Крый мяне божа! А я сабе думаў,
што знік ён,
Як войны грымелі і спелі разлады,
Як падалі ніцма званіцы,
Старыя законы і догмы,
Старыя казкі і вершы.
Бо гэта здорава,
Што жывы яшчэ летуценнік
І нават яшчэ не знасіўся
Ягоны бэзавы сурдут.
Ах, гэты Брэмель у бэзавым сурдуце.—

З найчысцейшага бэзу,
Такога не ўбачыш нідзе,
І нават на Калькю і Шцюню * яго
не знайсці!
З правілаў ён — выключэнне,
Зусім як у той граматыцы
Няправільныя дзеясловы.
Вітанне табе, бэзавы дэндзі,
Герцаг майскага вечара.
Не змогуць забраць у цябе зямлі
ні з падэшву
Ніякія законы.
Падданых тваіх не палохае ссылка —
Для іх яна быццам родная маці,
А той, хто цябе сустрэне,—
Нібыта ўваскрэсне мараю.
Далі бог! Ён марыць пачне —
Ён зможа яшчэ закахацца,
Вітанне табе, о блакітны сіньёр,
Толькі ідэі з перасцярогай:
На небе цяпер шмат трансмісій,
Плывуць яны з грузам сталёвым
У розных кірунках,
А ўсімі кіруе волат адзін — чалавек.
Душу пякуць раны балючыя,
Як быццам туды насыпалі солі,
Ды не сыходзіць з губ
Салодкі марцыпан летуценняў.
І навошта магічныя лічбы тыя,
Усё новыя тэорыі,
Калі з дапамогаю іх на новых крылах
Чалавек зноў не змог бы ўзняцца
На новыя Кардыльеры спадзяванняў,
Адкуль яму дыхнула б
у разгарачаны твар

---

* Вуліцы ў Старой Рызе, дзе былі магазіны лепшых фірм.

Вечна Нязведаная Даль.
Неўміручы капітан
У бэзавым сурдуце,
Перад табою схіляю калені!
Шчаслівы той, хто цябе сустрэне
Пагодлівым майскім вечарам,—
Той зможа жыць і кахаць,
Той адчуе сябе маладым.

## ДЗЕ ТЫ, МОЙ ГОРАД?

I

Дзе ты, мой горад?
Я шукаў цябе між спляценняў з дроту,
Я спыняўся ля цёмных скляпенняў,
Адкуль патыхала цвіллю і дзе
пацукі пішчэлі.
Я чуйна ўслухоўваўся ў антэны
І радасна клікаў: «Алё, Рыга!»
Ды голас твой губляўся,
бы ў лесе рэха...
Мяне гойдала вежа, а я ўсё думаў,
Чаму нідзе цябе не чутно.
І няма ў цябе ні свайго аблічча,
ні думкі:
Няма сваёй богамаці,
Такой, як у вокнах парыжскага сабора.
Не твае яны, англійскія каралі
і вяльможы,
Італьянскі вінароб і манах,
Што ў сутарэннях вякі загарнуў
у пергамент,
Не твае яны, германскія валькірыі,—
Не адшукаеш нідзе народа,
Што Латвіі быў бы кроўны,
Яе разумеў бы душою і сэрцам...

Ідзе земляроб — госць шумлівых
барoў і палеткаў,
І, рукою кранаючы лоб, яшчэ спрабуе
Нешта прыпомніць з часоў Зэмгале,
Відзэме,
У мітусні новай Рыгі.
Усё ў галаве пераблытана.
І толькі прывіды паноў колішніх
Вылупліваюць на яго вочы з-пад вежаў
і дахаў.
Моўчкі, як цень, ступаю я за разгубленым
чалавекам
Па старой Рызе
І марна пытаю:
Дзе ты, мой горад?

II

Я нагнуўся пад склепам і слухаю —
Як маркотна спявае там певень.
Гэта птушка галаў.
Грабянец у яе пунсовы.
Ад крыві і пажараў
Ён біцца ўмее не толькі з-за рэўнасці.
У яго вострыя шпоры і моцныя крылы —
Ад узмаху іх уздымаецца вецер
І «Марсельеза» гучыць над сценамі
Бастыліі.
Ён у рыжскага бюргера ў склепе
Чакае свайго прысуду — у гаршчок
з супам.
Вольны ж певень спіць на вежы сабора
святога Пятра...
А гэты, жывы ды паўмёртвы, галосіць.
Няўжо кроў лілася дарэмна, скажыце,—
Ты, бездапаможны крыкун у падвале,
Ты, хто знайшоў супакой у маўклівым
балоце,

Ты, каго выгнаў на бульвар голад,—
Вы даўно чужынцы ў сваім горадзе.
Заплюшчу вочы, хачу ўспомніць былое,
А яно расплываецца, нібы ў тумане:
І няма там зялёнага паплаўка,
каб прылегчы.
Калі іду ў сёння — сцінае дыханне.
Столькі людзей, ды рэдка сустрэнеш
Чалавека,
Шмат вежаў, ды не знойдзеш
прытулак нанач,
Шмат новых законаў, ды няма
новых думак.
Як чужаземец, блукае тут летуценнік,
Глядзіць на новых паноў і пытае:
Дзе ты, мой горад?

## *МІРЗА ГЕЛАВАНІ*

* * *

Мой боль разыдзецца тады,—
Калі прыйду, зірну,—
Мяне чакала б ты заўжды,
Нібы ў гарах вясну.

Прыйду, паклічу да цябе
Найблізкіх і гасцей:
Ну, хто на скачках і ў стральбе
У нас яшчэ спрытней?

А потым неба з гор здыму:
Яно табе самой,
Цярпенню доўгаму твайму
Дарунак сціплы мой.

Зурны не захлыніся звон,
Збан, хмель пад столь ускінь!
Балюйце, госці,— збыўся сон
Пра віцязя з вяршынь.

Твае сяброўкі — ах ды ой! —
Дзіцячы свет кране...
Хай будзе вечна ён з табой
І яваю і ў сне.

Я на вяселлі неба дым
Абрусам разгарну —
Мяне чакала б ты заўжды,
Нібы ў гарах вясну.

## ЯК ЗАЎСЁДЫ

Апусціць зноў у скрынку ліст свой,—
Не магу нейк узняць руку,
Бо яшчэ ж ні адна малітва
Не дайшла да нябёс пакуль.

Сам вандроўнік, мой шлях — маўчанне,
Ды я ўпарта на ім шапчу:
— Не давай сябе ў рукі адчаю,
Будзь спакойней — я так хачу.

І якая ў жыцці недарэчнасць! —
Толькі дваццаць табе даюць,
А табе — добра ж ведаю — вечнасць,
Сто эпох за табой паўстаюць.

* * *

Я не герой. Адно ў баі было —
Мне шанцавала ўсім смярцям назло.
І апускала смерць сваё крыло...
Усё ж цяжэй мне помніць вашы вочы —
І не таму, што я пазнаў любоў,
Што буйна бунтавала ў жылах кроў,
І перад ёю не знаходзіў слоў,
Ды ўкраў хтось гэты скарб у цемры ночы.
І не таму. Зусім не ад таго,
Што гэтай ночы патухаў агонь,
Што боль мой выцяў на світанку стогн
І клікаў вас, і толькі вас трывожна,—
О не!.. А проста смерць, як ні круці,
І вы — зарукаю ў пуці,
Што ўсё яшчэ магчыма у жыцці.
Магчыма ўсё... І жыць мінулым можна...

## МАЦІ

Вечар дажджлівы,
заплаканы вечар — вечар расстання.
У змроку асеннім знікае
маё юнацтва.
Мой адыход. Застаюцца і вершы, і край,
і каханне,
Мама ў журбе,
чыё сэрца мяне будзе верна чакаць...
Вось я ў акопе,
Сагрэты агнём, што нашу ў аўтамаце,
Чую ваш голас, бы чую,
сэрца крывёю пульсуе.
Хто ж тую сілу дае,
Каб і вашаму, мама, дзіцяці
Вытрымаць гэткае пекла?
Заклён ваш ад кулі я чую.

Помніце раніцу?
Дождж над прыціхлым Тбілісі цярушыць.
Не зразумець:
Світае ці хмары цяжкія радзеюць.
Ёкнула сэрца ад спеву —
прачнулася першая птушка:
Больш вас ніводзін світанак
цяпер у жыцці не сагрэе.
Неба святлей —
На Мтацміндзе Нівевія спала маўкліва!
Хутчэй бы цяжкі той расстанак —
Такім было наша адзіным жаданне.
І вось ўжо ад роднага краю
Нясе мяне ўдалеч імкліва
Поезд, падобна аленю,
Што скача на выручку лані...
Мама, прабачце мне:
Я не умею цяпер усміхацца.
Што ў вачах маіх зараз —

Не варта глядзець — гэтак страшна.
Можна
У чорнага ветру,
барвовых снягоў распытацца,
Як ваш сын сёння на свет нарадзіўся
І як памёр учарашні.
Толькі адно:
Час святы Перамогі
Верне нам радасць і пах горных кветак.
Толькі яна
Мяне верне ў горы
Па дарагому бацькоўскаму следу...

## *З узбекскай паэзіі*

АКМАЛ ПУЛАТ

### ТКАЧЫХА

Дзень барвовіцца зарой —
І я ў цэх лячу стралой.
— Наша дзеўчына-ткачыха! —
Часта чую за спіной.

Шоўкам ніткі серабрацъ,
Каб усе мне іх сабрацъ,
Дык хапіла б іх, дзяўчаткі,
І Зямлю апераэацъ.

Звонка так пяе станок:
Хвалі коцяцца ля ног,
Тыя шоўкавыя хвалі
Ад цябе плывуцъ, станок.

Шліце мне бавоўну зноў —
Напраду з яе асноў.
З іх такія ўборы будуцъ —
Залюбуешся без слоў.

Дзень барвовіцца зарой —
І я ў цэх лячу стралой.
— Наша дзеўчына-ткачыха! —
Часта чую за спіной.

*ЮСУФ ШАМАНСУР*

## ВЯСЕЛЛЕ

О, барабана баляванне з гаканнем!
Калі ўсё ў доме ходзіць хадуном,
Калі застоллем гулкім поўны дом,
Дымяцца стравы з вострымі прысмакамі!
        Грымі ж ты уладарна, барабан.
        Вось бачу, як нявеста-краска ў лузе —
        Плыве, плыве так хараша па крузе,
        І дзівіцца жаніх — ад шчасця п'ян.
Мы рукі ўгору ўзносім, быццам пікі,
І воплескамі славім прыгажосць.
Ад танца захмялелы кожны госць,
Хоць некранутыя стаяць напіткі.
        Адзіны госць не адбівае такт
        І юную царэўну не вітае,
        Што ў плацці белым, быццам чайка
                                                            тая.
        Ён радасны, ды штосьці тут не так...
Ён без рукі! Так, гэта я прыкмеціў!
Хіба папляскаеш рукой адной?
Гараць медалі. Сам ён з сівізной.
Пусты рукаў кранае мякка вецер.
        О, як бы запляскаў ён бурна!
        О, як бы рукі лебедзем пусціў!..
        Ён рваць масты варожыя хадзіў
        І поўз да смертаноснай амбразуры.
Ён знаў, за што хадзіў ў пякельны бой.
Абараніў ён шчасце.
        Дык святкуйце!
        І плёскатам далоняў салютуйце!
        Ён вашы рукі замяніў адной.
О, барабана баляванне дзіўнае!
І я ужо на месцы не стаю.
— Давай, давай! — б'е ў такт ён па сталу
Сваёй рукой натруджанай, адзінаю.

## *ЦАКАН ШОГЕНЦ*

### ПЕТРУСЮ БРОЎКУ

Прыйдзі ў мой край як самы госць
жаданы —
І трапіш ты ў абдымкі Ерэвана,
Лугоў нагорных, поўных ахалоды,
Абрус гасцінны для цябе — заўсёды.

Табе засвеціцца жывым экранам
Крышталь іскрысты горнага Севана.
Пачаставаць цябе ад сэрца рады
Даспелыя дарункі Арарата.

Паедзем мы з табою рана-рана
Туды, дзе пеніцца віно Раздана,
Туды, дзе ў скалах скачуць звонка рэкі
І дзе блукае ад стагоддзяў рэха.

Магчыма, тут ты адшукаеш слова,
Каб век Арменіі услáвіць новы,
Яе сады, і мудрую прыроду,
І шчырасць, дабрату майго народа,

Яго багацце, векавую мужнасць...
Сплящеш вясёлку ты сваю на дружбу.
І будзеззяць яна нам пастаянна
Ад Мінска любага твайго
да Ерэвана.

*ВАГАН КАРАНЦ*

## СЯСТРЫ

Беларусь... Задуменны твой голас,
Нескароны, як слова Купалы,
Ты глыбокая думкай, бы Колас...
Мудрасць з даўніх часін увабрала.

Ты спазнала і сейбіта шчасце
І прайшла праз нягоды суровыя...
Сэрцам шчырым хачу перакласці
Твае песні на родную мову.

Ты, далёкая, стала мне блізкай:
Я з праспектаў крутых Ерэвана
Чую гордыя крокі па Мінску
Сына велічных гор — Мяснікяна.

Як шугала свінцом завіруха
І мы гналі чужынцаў паганых,
Шмат палегла сыноў... Стала пухам
Беларусі зямля і армянам.

Беларусь... Над табою сузор'і
Чысцінёю сягоння мільгаюць...
І ка мне твае песні праз горы
З гулкіх пушчаў, бароў прылятаюць.

*АВАНЕС ГУКАСЯН*

## БЕЛАРУСІ

Як прагучаў задумлівы гармонік
І адгукнуліся яму бары і гоні,
Ад слёз прамокла трапяткая песня
Са словам «Беларусь» — трывожным,
веснім.

Праходзіў я маўкліва твае вёскі,
Дзе ў карагодах плавалі бярозкі,
Я ласку чуў у шчырай тваёй мове —
Ты, Беларусь, жыла ў самотным слове.

Дымілі чадам хутары і хаты,
Зацяты боль быў у вачах дзяўчатак,
Плылі па небе караванам хмары,
Ды слова «Беларусь» таіла мары.

Ляжалі сіратлівыя палеткі,
Былі абпалены на лузе кветкі,
І сейбіта свайго ралля чакала...
Са словам «Беларусь» — зямля Купалы.

Жаночыя натруджаныя рукі
Гаілі раны, суцяшалі мукі,
І ураджай быў абмалочан градам...
У слове «Беларусь» — туга і радасць.

Ды гнеў народны закіпаў без межы.
Змагаліся Палессе, Белавежа...
Хлапчук ішоў на бой, сівы дзядуля...
У слове «Беларусь» мы помсту чулі.

Як прагучаў задумлівы гармонік
І адгукнуліся яму бары і гоні,
Згадалі мы нялёгкія дарогі...
У слове «Беларусь» —
гімн Перамогі.

## ЗМЕСТ

**Блатун С.**

Б 68 Чысціня: Лірыка, гумар, пераклады [Для ст. школ. узросту.]/Прадм. Р. Барадуліна.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 240 с., 4 л. іл.

Сымон Блатун — адзін з яркіх і самабытных паэтаў пакалення, чыё маленства апаліла вайна.

Смеласць і плённасць пошуку, абвостранае адчуванне надзённасці і хады гісторыі, улюбёнасць у родны край, мову бацькоў, шчыры давер да чытача — гэтыя рысы выгодна вылучалі воблік паэта, ягоную творчую манеру, прыроджаны талент.

Заўчасная смерць абарвала нялёгкі і сумленны шлях мастака слова.

У кнізе «Чысціня» найбольш поўна прадстаўлена творчасць Сымона Блатуна, адметнага лірыка, дасціпнага гумарыста, перакладчыка.

Б $\frac{70803-193}{М\ 302(05)-79}$ 147—79

ББК 84 Бел 7
Бел. 2

*Семен Тихонович Блатун*

ЧИСТОТА

Лирика, юмор, переводы

Для старшего школьного возраста

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар В. А. Жуковіч.
Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка.
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо.
Карэктар А. Т. Глушчанка

ІБ № 489.
Здадзена ў набор 21.06.79. Падп. да друку 10.10.79. АТ 01280. Фармат 75×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,37+0,31 укл. Ул.-выд. арк. 7,24. Тыраж 3000 экз. Зак. 2323. Цана 55 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.